*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
22
САКАВІКА
1991 г.
№ 12 (3578)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)





## ДВАЦЦАЦЬ ПЯТАГА САКАВІКА

Дваццаць пятага сакавіка —
Годны дзень
Беларускай Дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.
Шматавалі нас досыць арлы
І з адной і з дзвюма галавамі.
Мы не з нейкай бязроднай імглы,
Нас вякі як сваіх
Гадавалі.
Мы — ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміручай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдое далоні.
Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сцяга.
Дваццаць пятага сакавіка —
Наша свята,
Пароль
І прысяга!

Рыгор БАРАДУЛІН.

# ВЫЖЫЦЬ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

## Нататкі з семінара

> ...Мы ўсімі пакрыўджаны, але не крыўдуем; мы ў адчайных абставінах, але не адчайваемся.
>
> **2-е Карынф, 4:8.**

«Lebens nach Tschernobyl» («Жыццё пасля Чарнобыля») — так называецца ў Германіі грамадскі камітэт, які каардынуе дапамогу Савецкаму Саюзу ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай. Ён узнік летась і дзейнічае пад эгідай Савета евангелічных (пратэстанцкіх) цэркваў Заходняй Германіі. Цяпер усё фінансаванне ажыццяўляецца праз гэтую нясвецкую структуру. «LNT» дзейнічае незалежна ад федэральных улад; гэта — грамадскі рух у Нямеччыне, які паставіў мэту дэталёва вывучыць чарнобыльскую сітуацыю, каб зарганізаваць разнастайную дапамогу СССР з-за мяжы, у першую чаргу з Германіі.

Такі ж камітэт «Жыццё пасля Чарнобыля» ў Беларусі ўзнік у рамках Беларускага экалагічнага саюза. Яго ўзначальвае А. Рухля, кіраўнік аддзела БЭСа па праблемах Чарнобыля. Абедзве дабрачынныя арганізацыі цесна ўзаемадзейнічаюць. За паўгода праз БЭС у Беларусь з ФРГ паступіла каля 500 тон грузаў дапамогі, 32 тысячы прадуктовых пасылак і 100 тон іншых прадуктаў харчавання. У бальніцы забруджаных раёнаў і медыцынскія ўстановы Гомеля, Магілёва, Мінска, дзе лечацца жыхары гэтых раёнаў, пастаўлена 8 сучасных ультрагукавых сканераў, камп'ютэрны энцыфанограф, сотні тысяч аднаразавых шпрыцаў, тоны вітамінаў і лекаў. У сакавіку завершыцца сумесная акцыя «Кожнаму дзіцяці на тэрыторыі з забруджанасцю больш 15 Кі/км$^2$ — харчовую пасылку» (засталося даставіць 9 тысяч пакункаў). Цяпер паўстала задача суаднесці змест дапамогі з нашымі патрэбамі.

Дзякуючы намаганням прэзідыума БЭСа стаўся магчымым прыезд дэлегацыі «LNT» у Беларусь. У лютым дэлегацыя з Германіі ў складзе 22 чалавек — радыёлагаў, біёлагаў, урачоў, журналістаў, рэлігійных прапаведнікаў — прыбыла ў Мінск для ўдзелу ў сумесным нямецка-беларускім семінары «Жыццё пасля Чарнобыля». Перш удзельнікі пабывалі ў забруджаных раёнах Гомельскай вобласці, дзе сустракаліся з насельніцтвам, мясцовымі ўладамі. Затым адбыўся навуковы сімпозіум у БДУ імя У. І. Леніна, які вёў віцэ-прэзідэнт БЭСа прафесар Я. Пятраеў. Даклад «Радыеэкалагічныя і радыебіялагічныя наступствы чарнобыльскай катастрофы» прачытаў акадэмік АН БССР, дырэктар Інстытута радыебіялогіі Я. Канапля. У дыскусіі ўдзельнічалі прафесар кафедры радыяцыйнай хіміі БДУ А. Шадыра, прафесар Мюнхенскага інстытута радыялогіі Э. Ленгфельдэр, выступілі прадстаўнікі ВС БССР і СМ БССР, спецыялісты-практыкі з забруджаных раёнаў. У апошні дзень работы ўдзельнікаў семінара прыняў першы намеснік Старшыні ВС БССР С. Шушкевіч.

Нямецкія калегі-журналісты ўсе даклады і спрэчкі запісалі на магнітафонную стужку і амаль усе выступы здымалі відэакамерамі, каб потым паказаць у Нямеччыне. З нашага боку семінарам прадметна цікавіўся тэлежурналіст П. Шаўчук, аўтар фільма «Дапамажыце!», і «ЛіМ». Дзіўна было не ўбачыць у штодзённых рэспубліканскіх газетах паведамленняў пра семінар; зрэшты, колькі іх прайшло незаўважанымі?

Можа, таму на пятым годзе пасля выбуху толькі сумленныя спецыялісты валодаюць поўнай інфармацыяй аб катастрофе, а насельніцтва цалкам спадзяецца на клопат дзяржавы? Сам Прэзідэнт напрыканцы лютага затурбаваўся лёсам 2,1 мільёна беларусаў, якія жывуць на забруджанай тэрыторыі. Але што сімптаматычна — у выступленнях дзяржаўных асоб, адказных за выкананне Праграмы ліквідацыі вынікаў катастрофы, працягваюць гучаць дакоры навукоўцам — маўляў, мы пяць год робім не тое, не маючы кампетэнтных прапаноў, самі шукаем выйсце, працягваем эксперымент... Навука вінавата. Гэты матыў з новай сілай загучаў у час візіту Прэзідэнта, які пасля праграмнай прамовы ў АН БССР чамусьці не сустрэўся менавіта з тымі беларускімі навукоўцамі, хто найлепш дасведчаны ў праблеме.

Суадносіны «чарнобыльскай» навукі і палітыкі мяне найбольш цікавілі на семінары. Хацелася зразумець глыбіню ўласных ілюзій наконт чарнобыльскай праблемы і ўсвядоміць адлегласць паміж рэальнымі вынікамі катастрофы і дзяржаўнай практыкай. Ход семінара пацвердзіў слушнасць такога падыходу, бо нават на ім у выступленні загадчыка аддзела СМ БССР па чарнобыльскай праблеме Г. Панькова працягваў гучаць матыў некампетэнтнасці навукі, якой і абумоўлены, маўляў, доўгатэрміновы эксперымент, памылковыя рашэнні. Прафесар Я. Пятраеў, іншыя беларускія вучоныя катэгарычна адверглі такія сцвярджэнні.

Акадэмік Я. Канапля выклаў карціну наступстваў усеабдымна і абгрунтавана. Падаю агульны сэнс яго даклада, каб не заблытацца ў «дозах», «ізатопах», «перыядах».

Радыяцыйнае забруджанне Беларусі не мае аналагаў у сусветнай гісторыі. Класічныя законы радыебіялогіі, сфармуляваныя пасля Хірасімы на падставе высокіх доз апраменьвання, не могуць выкарыстоўвацца ў нас, дзе ўздзеянне радыяцыі на шэсць парадкаў ніжэй. Уплыў малых доз радыяцыі на чалавека з'яўляецца нязведаным і спрагназаваць яго нельга: можна толькі зафіксаваць. Няма ніякага навуковага абгрунтавання, «колькі» радыяцыі не шкодна для арганізма, рэкамендацыі з'яўляюцца толькі пасля падліку колькасці анкалагічных хворых у пэўным раёне радыяцыйнага ўздзеяння. Так прынята ў свеце, аб чым расказаў прафесар з Мюнхена Э. Ленгфельдэр.

Такім чынам, у нас дзейнічае прынцып фатальнага прэцэдэнта: што з намі будзе — не ведаем, а як здарыцца — возьмем за норму. У гэтай непрадказальнасці будучыні і заключаецца сённяшняя трагічная філасофія Беларусі. З яе зусім абгрунтавана вынікае паняцце «эксперымент». Наканаванасць лёсу, крыжовы шлях, злачынства сістэмы — якое хочаце вызначэнне гэтага паняцця.

Але нават трагі-філасофія не існуе без сацыяльнай практыкі. Удзельнікі семінара больш цікавіліся ёю. Паўз усю дыскусію прайшла тэма міфаў вакол Чарнобыля, якія выдаваліся дзяржавай за навуковыя тэорыі і служылі заганнай постчарнобыльскай палітыцы.

Першы з іх — «тэорыя ліквідацыі вынікаў аварыі» (цалкам), якая праявілася ў бязглуздай кампаніі дэзактывацыі, змене платоў, асфальтаванні дарог і інш.; другі — 35-бэрная канцэпцыя, якая загадвае чалавеку жыць роўна 70 год і дэкларуе спрыяльнасць для арганізма малых доз радыяцыі. Менавіта супраць гэтых тэорый змагаліся ўвесь час Я. Канапля, Я. Пятраеў і іх калегі, як вынік — іх палажэнні не патрапілі ў рэспубліканскую Дзяржаўную праграму ліквідацыі наступстваў катастрофы, прынятую ў мінулым годзе ВС БССР. Трэці міф — аб вытворчасці чыстай прадукцыі на забруджанай тэрыторыі. Я. Канапля пераканаўча паказаў удзельнікам семінара, што сельскагаспадарчыя прадукты ў «зонах» непазбежна будуць акумуліраваць радыенукліды, і іх паступленне ў арганізм чалавека будзе ўзнаўляцца, павялічваючы індывідуальную дозу апраменьвання. Дарэчы, нават 35-бэрная канцэпцыя мае ўмовай завоз у забруджаныя раёны чыстай прадукцыі.

Згаданы міф сёння самы небяспечны. Аграпром кантралюе сам сябе, прычым радыяцыйны нагляд выбарачны, а прадукцыю з уласнага палетка можна ўвогуле не правяраць. Нямецкіх вучоных такое становішча ўзрушыла. Яны прапанавалі свае паслугі ў стварэнні незалежнай сістэмы радыелагічнага кантролю прадуктаў харчавання.

Каб хутчэй пазбавіцца міфаў, трэба дакладна ведаць, у чым заключаецца радыяцыйная небяспека. Галоўны вораг — малыя дозы радыяцыі. Для вучоных сёння абсалютна зразумела, што, напрыклад, слаўгарадскі селянін з часам можа атрымаць такую ж сумарную дозу апраменьвання, як і чалавек, што жыве, скажам, за адзін кіламетр ад разбуранага рэактара. Раёны Магілёўскай вобласці падвергліся большаму забруджанню трансуранавымі элементамі, якія маюць здольнасць глыбей патрапляць у глебу, а праз яе ў грунтовыя воды, карані шматгадовых траў. Праз 20 гадоў сітуацыя ў Краснапольскім, Слаўгарадскім, Касцюковіцкім і іншых раёнах не палепшыцца.

Радыенуклідны «палетак» паступова павялічвае сваю плошчу за кошт ветраных бур, дажджу, руху падземных вод, распаўсюджвання забруджаных прадуктаў і кармоў. У радыус дзеяння нуклідаў і гарачых часцінак трапляе ўсё больш людзей.

На Беларусь асеў і свінец, якім засыпалі рэактар, працягваў Я. Канапля, свінец прыгнятае псіха-нервовую сістэму чалавека, асабліва моцна ўздзейнічае на здароўе дзяцей. Праблема не даследавана, і невядома, якія захады прымаць тут. Мінулым летам у Вялікай Бераставіцы, дзе адпачывалі дзеці 7 — 9 год з Чачэрска, мяне здзівіла наступная з'ява: пры гутарцы дзеці доўга задумваліся, перш чым адказаць на пытанне, і адказвалі ўцямна далёка не з першага разу. Цяпер ведаю, што гэта ўздзеянне свінца.

Не ведае навука і наступстваў камбінаванага ўплыву радыенуклідаў (цэзій, стронцый, плутоній). Цэзіевая карта складзена, а што тычыцца стронцыевай, дык пакуль па заяўцы для асобных раёнаў яе можа зрабіць лабараторыя Я. Пятраева: на рэспубліку няма прыбораў — Савет Міністраў ніяк не можа іх прыдбаць.

Я. Канапля рэзка крытыкаваў сцвярджэнні адказных асоб і прэсы аб тым, што аварыя на ЧАЭС не паўплывала на павелічэнне разнастайных захворванняў у забруджаных зонах. Маўляў, радыяцыя не можа выклікаць інфаркт ці грып. Інстытут радыебіялогіі канстатуе агульнае паслабленне пасля выбуху імуннай сістэмы ў насельніцтва забруджаных тэрыторый, якое назіраецца дагэтуль. Як вынік — павелічэнне захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, пухлінных з'яў, дэфармацыя абмену рэчываў.

Прагнозы на будучыню змрочныя: павелічэнне ў некалькі разоў захворванняў крыві і выпадку злаякасных пухлін. Гіпертанія, інфаркты будуць правакавацца яшчэ і псіхалагічным станам, звязаным з радыяфобіяй.

Такі характар радыяцыйнага ўздзеяння не зменіцца дзесяцігоддзі, і з ім можна толькі прымірыцца. Сацыяльная праграма, адэкватная сітуацыі, павінна быць доўгатрывалай і базавацца на наступным:

— немагчымасці вытворчасці чыстай прадукцыі на забруджанай тэрыторыі;

— стварэнні ў Беларусі ўласнай базы для лячэння хворых;

— правядзенні поўнай незалежнасці праграмы вымярэнняў;

— стварэнні незалежнай сістэмы радыяцыйнага кантролю.

Я. Канапля лічыць, што праблема Чарнобыля закранула ўсю сусветную грамадскасць і ў яе інтарэсах стварыць у Мінску на базе Інстытута радыебіялогіі міжнародны даследчы цэнтр наступстваў радыяцыйнага забруджання.

Навуковая дыскусія не абвергла ніводнай высновы беларускага вучонага. Яны леглі ў аснову выніковай дэкларацыі, падпісанай кіраўнікамі БЭСа і нямецкага камітэта «Жыццё пасля Чарнобыля».

Удзельнікі семінара канстатуюць:

1. Стан здароўя насельніцтва на большай частцы тэрыторыі значна пагоршыўся. Узровень захворванняў у бліжэйшыя 20 гадоў будзе ўзрастаць.

2. Існуючыя праграмы па ліквідацыі наступстваў Чарнобыля да сённяшняга дня праводзіліся марудна... Згублены самыя важныя гады, каб шляхам перасялення не дапусціць вялікай прамянёвай нагрузкі насельніцтва.

3. Да сённяшняга дня няма аб'ектыўнай ацэнкі наступстваў катастрофы. Выкарыстанне забруджаных глебаў матывуецца эканамічнымі інтарэсамі, а не турботай аб здароўі насельніцтва.

У якасці практычных дзеянняў намечана:

— накіраваць у Германію медыцынскі персанал, іншых спецыялістаў Беларусі з мэтай навучання рабоце на сучасным медыцынскім абсталяванні, засваення новых метадаў прафілактыкі і лячэння людзей, што атрымалі прамянёвую нагрузку;

— скіраваць сумесныя высілкі на дапамогу Беларусі ў будаўніцтве жылля для перасяленцаў (брыгады будаўнікоў з Нямеччыны будуць ладзіць ацяпленне кватэр, сантэхніку);

— ажыццявіць сістэматычную праграму вымярэнняў і суцэльнае дакументаванне радыелагічнай абстаноўкі на забруджаных тэрыторыях;

— дапамагчы БССР стварыць уласную інфраструктуру для доўгатэрміновага аздараўлення дзяцей на тэрыторыі рэспублікі. Мэтазгодна пабудаваць у чыстай мясцовасці рэабілітацыйны цэнтр з клінікай.

Надалей абодва камітэты будуць намагацца скаардынаваць дзейнасць рэспубліканскіх і замежных суполак, якія займаюцца праблемамі Чарнобыля. Калі ў будучым палітыка ўтойвання, прымяншэння і спрашчэння рэальнай пагрозы радыяцыі для насельніцтва будзе працягвацца, камітэт «Lebens nach Tschernobyl» прыкладзе актыўныя намаганні для праўдзівага інфармавання сусветнай супольнасці і павелічэння аб'ёмаў дапамогі насельніцтву пацярпелых раёнаў Беларусі, Расіі і Украіны.

**Юрась ЗАЛОСКА.**



У час дыскусіі.



Фота Ул. КРУКА.

# З ЛЮБОЎЮ І ПАВАГАЙ ДА ДЗЯЦЕЙ

## Пра чытанку для дзіцячага сада

Ёсць кнігі, якіх чакаеш. А калі бярэш у рукі, ахоплівае хваляванне: спяшаешся пагартаць, пачытаць і даведацца, якой жа яна атрымалася. Такую рэакцыю выклікала і «Чытанка для дзіцячага сада» (Укл. В. Р. Вячорка, Н. І. Маскаленка, П. В. Садоўскі», Мн.,1990). Ужо сама назва кнігі радуе. Нарэшце вярнулася да нас спрадвечнае наша беларускае слова, тое слова, якім называлі яшчэ ў пачатку 20-га стагоддзя свае кнігі Цётка і Колас.

Хрэстаматыя атрымалася адмысловая. Складзена ўдумліва, з густам, з адчуваннем мастацкага слова і ўзроставай псіхалогіі дзяцей. Кампазіцыя сведчыць пра арыентацыю на маленькіх слухачоў: дзяцей ранняга ўзросту і першай малодшай групы, дзяцей сярэдняй і старэйшых груп. Укладальнікі шчасліва пазбеглі засілля схемпадыходаў і ў структуры кнігі, і ў адборы матэрыялаў.

Літаральна з першых старонак чытанка зачаруе маленькага слухача, прывабіць хараством змешчаных у ёй твораў дзіцячага фальклору. Лёгка адчуюць бадзёры рытм і запомняць маленькія слухачы вясёлую, гуллівую—ёй і пачынаецца, дарэчы, хрэстаматыя — заклічку:

**Сонейка-сонца,**
**Выглянi ў аконца,**
**Пасвяці нам трошку,**
**Дам табе гарошку.**

З паэтычным словам кожны з нас упершыню знаёміцца, слухаючы матчыну калыханку. У гэтай просценькай песеньцы выяўлены педагагічныя погляды, эстэтычна-мастацкія густы народа, да разумення і адчування якіх далучаюцца дзеці. Відаць, таму так шчодра ўвайшла ў кнігу калыханкавая паэзія. Безумоўна, дзеці адчуюць пяшчоту, далікатную чалавечую дабрыню ў песнях «Люлі-люлі, люляшу», «А ты, коцінька-каток», «Ай, люлі-люлі-люлечкі».

Дзеля аб'ектыўнасці мушу зазначыць, што можна было б змясціць больш лічылак, што памагаюць дзецям вызначаць чарговасць у гульні, а таксама скорагаворак, якіх вучаць гаварыць, развіваюць, узбагачаюць мову.

У першых двух раздзелах змешчаны не толькі фальклорныя творы малых жанраў, але і літаратурныя — вершы У. Луцэвіч, З. Бядулі, В. Віткі, А. Лойкі, Т. Кляшторнай і іншых аўтараў.

Як вядома, найбольшай папулярнасцю ў дзяцей карыстаецца казка, для іх таксама знаёмства з гэтым жанрам вуснай народнай творчасці з'яўляецца пачатковым этапам мастацкага асэнсавання свету. У гэтай чытанцы змешчаны такія творы казачнага эпасу, якія захапляюць дашкольнікаў дынамічным, займальным сюжэтам, трымаюць у палоне дзіцячую цікаўнасць: «Каток — залаты лабок», «Зайкава хатка», «Коцік, пеўнік і лісіца», «Каза-манюка». Няцяжка заўважыць, што дзецям даюцца казкі пра жывёл, сюжэт якіх больш даступны для разумення самага малога слухача. Прапануюцца і лепшыя літаратурныя казкі — «Вавёрчына гора» В. Віткі, «Жук і слімак», «Ехаў казачнік Бай» М. Танка.

Думаецца, дзецям будзе цікава пазнаёміцца з казкамі К. Каліны, у якіх у вобразна-фантастычнай форме апісаны месяцы; аўтар такім чынам памагае дзецям зразумець і выразна адчуць характэрныя прыкметы і адпаведнага месяца, і пары года.

Прадумана і зладжана для кожнай узроставай групы адабраны і размешчаны літаратурныя творы, яны разнастайныя ў тэматычных і жанравых адносінах. Аснову складае нацыянальны матэрыял, але і выкарыстана нямала твораў сусветнай літаратуры, у першую чаргу — літаратуры суседніх народаў (рускай, украінскай, літоўскай, польскай). Шырока прадстаўлена паэзія Я. Коласа, В. Віткі, М. Танка, А. Вольскага, В. Вярбы, а таксама тых аўтараў, хараство паэтычнага слова якіх не даходзіла да малых (Л. Геніюш, С. Новіка-Пяюна). Добразычлівы гумар, трапны жарт, «гульня словам і ў слове»— пастаянныя спадарожнікі лепшых твораў Р. Барадуліна. Вершы паэта, змешчаныя ў чытанцы, будуць выхоўваць у дзяцей чуйнасць слыху да гучання, да музыкі слова («Ната маму любіць надта», «Ай! Не буду! Не хачу!»). Можна нават гаварыць пра адкрыццё цікавага паэта для дзіцячай аўдыторыі — С. Сокалава-Воюша. Мова яго вершаў вызначаецца прастатой, лаканічнасцю, выразнасцю («Авечка», «Пчолка», «Мішка» і інш.).

Кніга заслугоўвае самай высокай ацэнкі, бо дае магчымасць выхавальніку мастацтвам слова ўздзейнічаць на эмацыянальнае і разумовае развіццё дзяцей, узбагаціць іх жыццёвы вопыт, даць уяўленне пра дабро і справядлівасць, смеласць, гуманнасць, міласэрнасць, развіць пачуццё прыгожага. Праўда, нечакана ў ёй аказалася «лыжка дзёгцю». Маю на ўвазе рытарычныя, дэкларатыўныя вершы «Свята» В. Вярбы, «Добры дзень, дзядуля Ленін», «Радзіма» А. Вольскага. Усё яшчэ «крочыць наш дзіцячы сад з майскай песняй на парад» (Н. Галіноўская). Няма сумнення, пазбаўляцца ад неапраўдана ўзвышанай выдумкі, ад твораў, дзе бразгочуць пустыя словы, трэба як мага хутчэй.

Хочацца зрабіць і адно ўдакладненне: верш «Елачка» ўяўляе сабою пераклад Я. Купалы папулярнай дзіцячай песенькі «В лесу родилась елочка» рускай пісьменніцы Р. А. Кудашовай.

І яшчэ раз трэба паўтарыць, што кніга «Чытанка для дзіцячага сада» складзена з любоўю і павагай да дзяцей.

**Марыя ШАЎЛОЎСКАЯ,**
**дацэнт кафедры беларускай літаратуры МПІ імя М. Горкага.**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ГЭТЫМ ЖЫВУ...




Многія старонкі гэтай кнігі (Ніл Гілевіч, «Вяртанне і працяг», «Мастацкая літаратура», 1990) лімаўскаму чытачу добра вядомы. Можна нават сказаць, што на старонках «ЛіМа» ў асноўным кніга і нараджалася — трывожны роздум творцы і грамадскага дзеяча, змаганца за нацыянальнае адраджэнне пра наш трывожны, супярэчлівы і складаны час, пра Беларусь і беларусаў, іх месца на сваёй зямлі і ў свеце.

Найперш роздум гэты — у публіцыстычным дзённіку «Між былым і наступным». У канцы яго пазначаны лічбы: 1985—1988. Так, Н. Гілевіч гаварыў і пісаў пра заняпад роднай мовы, нацыянальны нігілізм, засілле рускамоўнага чыноўніцкага апарату і тады, калі многія сённяшнія актыўныя змагары за беларускасць ціха сядзелі ў сваіх кабінетах і кватэрах, баючыся сказаць слова, адрознае ад афіцыйнай думкі. Гэта ўжо цяпер яны асмялелі і выстаўляюць сябе барацьбітамі, і, не знаходзячы ўласных думак, паўтараюць, хіба што ў іншых варыянтах, выказанае тымі, каму сапраўды руліцца за народ.

Але вернемся да кнігі. Пазіцыя аўтара — дзейсная, баявая, аргументаваная. Не толькі сведчанне трывожнасці становішча, а і падказка, што і як рабіць, каб пазбавіцца гэтага: «Бясконцыя наракання на заняпад беларускай школы, на нацыянальную безаблічнасць канцэртных праграм і тэатральных рэпертуараў, ідэалагічных міністэрстваў і ведамстваў... А якая карысць з гэтых вечных нара-

СПАДЧЫНА

# НЕВЯДОМЫ ПЕРАКЛАД «СЛОВА...»

Да гэтага часу беларускаму чытачу вядомы пераклады «Слова пра паход Ігара», зробленыя Я. Купалам, М. Гарэцкім, Р. Барадуліным, В. Дарашкевічам, а таксама паэтычныя варыяцыі на тэмы «Слова» А. Вялюгіна, К. Кірэенкі, М. Танка, Я. Крупенькі.

Нядаўна жыхар г. Вільнюса Алег Анцукевіч, разбіраючы паперы нябожчыка бацькі — Мікалая Пятровіча Анцукевіча (памёр у 1972 годзе), выявіў невядомы дагэтуль пераклад «Плача Яраслаўны», які, бясспрэчна, зацікавіць навуковую і пісьменніцкую грамадскасць не толькі як прыватны факт з гісторыі вывучэння помніка, але і факт яднання культур усходніх славян.

У аўтографе, на жаль, няма даты канчатковага афармлення перакладу, але на падставе таго, што М. Анцукевіч яшчэ ў 1938 годзе апублікаваў у Вільні свой пераклад «Слова» на рускую мову, а пасля напісаў даследаванне пра гэты помнік, можна дапусціць, што пераклад «Плача Яраслаўны» на беларускую мову быў ажыццёўлены ім у перыяд яго працы на пасадзе дырэктара Віленскай гімназіі для беларусаў.

З дазволу А. Анцукевіча падаём тэкст перакладу ў адпаведнасці з сучасным беларускім правапісам.

### ПЛАЧ ЯРАСЛАЎНЫ

**Не* коп'і пяюць на Дунаі —**
**то голас чуваць Яраслаўны.**
**Зяўзюляй нязнанаю рана**
**галосіць:**

* «Не» дадаю на падставе зместу «Слова» ў духу стараруской паэзіі.

# ЖЫВОЕ ДЫХАННЕ МІНУЎШЧЫНЫ

Шуміць разгалістая ліпа над старэнькай, перакошанай хаткай сярод пахучага бэзу. Побач рэчка Вязынка, мясціна прывабная, маляўнічая, багатая падзеямі сівой мінуўшчыны. Ажно неяк не верыцца: тут калісьці віравала, гукала жыццё на поўныя грудзі...

Балюча на сэрцы становіцца, калі заходзіш на падворак. Усё тут у заняпадзе. Збуцьвеў ад часу плот. Дом нібы ўрос у зямлю, патрабуе неадкладнага рамонту. Але старшыню гарпассавета Радашковічы, відаць, мала цікавіць, хто жыве ў гэтай хаце, каго трэба акружаць кожнадзённым клопатам. А жыве тут удава арганізатара, стваральніка і кіраўніка Беларускай рабоча-сялянскай грамады, члена КПЗБ Браніслава Тарашкевіча.

Вось ужо дзевяностая вясна пастукала ў вокны Веры Андрэеўны. Яна прыгнутая да зямлі часам, амаль што не ходзіць, пакутуе ад жыццёвых нястач. Адзін паратунак: дачка-пенсіянерка даглядае маці. Але ж што могуць зрабіць жанчыны з хатай, якую свідруе вецер, цячэ дах у дажджлівую пагоду... Я чакаў шмат наракання з боку гаспадыні ў адрас мясцовага начальства. Гэтага не здарылася: прыродная сціпласць, інтэлігентнасць не дазваляе ёй у другі раз звяртацца да людзей за глухімі сценамі: на першую просьбу не адгукнуліся, не пачулі...

Сёння ўдаву Тарашкевіча моцна хвалюе лёс музея мужа. Набліжаецца сотая гадавіна з дня яго нараджэння, а былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі Г. С. Таразевіч не адгукнуўся на ліст Веры Андрэеўны. Праўда, камісія з вобласці і раёна прыязджала, ды нічога не зрушылася.

— Ведаеце, маё жыццё на зыходзе, — неяк балюча, з вялікай пяшчотай і душэўнасцю ў голасе гаворыць на чыстай бацькоўскай мове гаспадыня. — Мой клопат — дабіцца, каб гэты кут, дзе жыў Браніслаў Адамавіч і куды часта прыходзіў мой дзядзька Саша Уласаў, вядомы дзеяч і арганізатар беларускага адраджэння, стаў месцам духоўнага жыцця іх землякоў.

Я ўглядаўся ў зморшчынены твар спадарыні. Жывое дыханне стагоддзя адчувалася ў нетаропкай, разважлівай гутарцы. Думаецца, гэтыя запісы зацікавяць не толькі землякоў, бо памяць — вечны духоўны скарб чалавека, вечная і чыстая крыніца для нашых нашчадкаў.

У бок Маладзечна, блізка ад Радашковіч, каля цяністага саду прытуліўся фальварак А. М. Уласава, першага рэдактара Янкі Купалы і Якуба Коласа ў газеце «Наша Ніва». Сюды прыходзілі шчырыя беларусы. Дзядзька Гром, як любоўна называлі яго паміж сабою маладыя людзі за геркулесавую сілу і дзябёлую постаць, быў сенатарам у польскім сойме ад сялян. Наязджаў сюды малады інтэлігент з прыгожым энергічным, разумным тварам, вядомы на той час як вялікі «крамольнік», абаронца сялян і рабочых — Браніслаў Тарашкевіч. Пляменніца Уласава з захапленнем слухала палымяныя выступы гэтага неардынарна думаючага беларуса. Ды і дзядзька падліваў масла ў агонь, падхвальваючы хлапца. Першае знаёмства адбылося ў 1922 годзе ў Мігаўцы, на фальварку Уласава, яно прадаўжалася, набірала сілу. Ужо будучы паслом у Варшаве, Браніслаў Тарашкевіч абвянчаўся з дачкою Сніткі Верай Андрэеўнай у праваслаўнай царкве польскай сталіцы. Пазней маладыя яшчэ раз абвянчаліся ў беларускім касцёле Святога Мікалая ў Вільні. (Вядома, служба ішла на роднай мове.) Дачка двараніна стала жонкаю палітычнага дзеяча. Вернай спадарожніцай і памочніцай была яна мужу і ў гады палітычнага ўздыму, і ў часы цяжкіх выпрабаванняў. Пэўны час Вера Андрэеўна жыла ў Вільні, наведвала універсітэт як вольная слухачка... Многа карыснага яна чэрпала ад беларускага гуртка «Адраджэнне». Ну, і як спадарыні хапала клопату — сустракаць паплечнікаў мужа, часам рызыкаваць, бо сярод «сяброў» траплялiся і польскія шпікі.

На пачатку 1925 года пачала дзейнічаць рабоча-сялянская грамада Заходняй Беларусі. Шырокія крылы набыў рух за адраджэнне культуры, роднага слова, спадчыны свайго народа. Бальшавіцкая прапаганда шырока вяшчала аб вольным

# АМЕРЫКА і БЕЛАРУСЫ

Між імі і намі доўга была сцяна, збудаваная з цэглы нашых догмаў. З-за гэтай сцяны мы не маглі як след бачыць і чуць адзін аднаго. На спрадвечнай бацькоўскай зямлі мы не былі гаспадарамі, а яны не хацелі дома быць чужынцамі. Увесь свет называе іх палітычнымі эмігрантамі, у нас называлі іх здраднікамі і жадалі, каб слова «Беларусь» ніколі не грэла іх і не вабіла. І, як маглі, пэцкалі іх чорнай фарбай. Яны ж Радзімай жылі — радніліся і ратаваліся ёю на чужыне. І заўсёды казалі: «Жыве Беларусь!»

Сцены, нават самыя, здавалася б, непарушныя, з цягам часу руйнуюцца. Гэтая сцяна — таксама.

І цяпер, на фоне іншых народаў і сапраўднай свабоды, мы асабліва пакутна пачынаем усведамляць, што знішчылі свае святыні і забылі імёны продкаў, напляваLі на гісторыю і насмяяліся з мовы. І пачынаем углядацца ў беларусаў замежнай галінкі нашага радаводнага дрэва. І мы да іх, і яны насустрач нам зрабілі крок.

Нядаўна патрапіў я ў славутую Амерыку, дзе нямала беларускіх эміграцыйных калоніяў і цэнтраў. Нью-Йорк, Кліўленд, Саўт-Рывер. На іх жыццё я глядзеў і праз аб'ектыў старэнькага «Нікона». Іхнія, збудаваныя сваімі рукамі храмы, заможныя і ўтульныя дамы, дзе ў кожным, акрамя даматканага ручніка, абавязкова ёсць вопратка з нацыянальным арнаментам. Чуў і запісваў на стужку дыктафона, як моляцца яны за Беларусь, як спяваюць народныя песні... І пачуваўся я беларусам сярод беларусаў. Хоць вядома, дзівіўся, саромеўся і злаваўся: чаму мы, такія падобныя знешне, так па-рознаму жывём?

І засталіся на здымках іхнія твары: старыя і маладыя, заклапочаныя і шчаслівыя, вясёлыя... І самі яны — на вуліцах, у офісах, дома, у мастакоўскіх майстэрнях, на калядках, у царкве, у розным адзенні, на розных аўто... І нават вайсковец Даніла Яраховіч, які збіраўся на вайну ў Кувейт, патрапіў у аб'ектыў. І стаяў я сярод магілах на чужой зямлі і чытаў на каменных плітах беларускія прозвішчы...

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

Фота аўтара.



Сімвал Амерыкі



Тамара-беларусачка




Змагарам за вольную Беларусь



Сям'я Бартулёў з Нью-Йорка.



Доктар Шукелайць — старшыня БАЗа



На калядах



Чакае Данілу Яраховіча далёкі Персідскі заліў



Вечна заклапочаны Сяргей Карніловіч




Гарадок, дзе жывуць беларусы — Нью-Бронсвік



Нядзельная служба ў царкве ў Саўт Рыверы





Палешучка Надзея Кудасава



Данчык у офісе на Манхэтэне




Апошні прытулак...

# Вяртанне Веры Ермалаевай



гію, гарачую кроў. Аднак такія мастакі хутка засвойвалі дасягненні папярэдняга мастацтва. Малевіч, напрыклад, папрацаваў і як імпрэсіяніст, і ў духу «Свету мастацтваў» і «Блакітнай ружы». Тое ж самае адбывалася і з Ермалаевай. Але мастакі на гэтым не спыняліся. Іх пастаянная зменлівасць тлумачыцца не творчай беспрынцыповасцю, а страснай прагай новага.

Разам з П. Філонавым, В. Разанавай і М. Ле-Данцю Вера Міхайлаўна ўваходзіла ў пецярбургскае таварыства «Саюз моладзі», якое ўзнікла яшчэ ў 1912 годзе па ініцыятыве М. Мацюшына і А. Гуро. «Саюз» аб'ядноўваў мастакоў розных накірункаў, але асноўным ядром яго былі кубафутурысты. Таварыства месцілася на ціхай і зялёнай вуліцы Пясочнай, у доме № 10. Гэты драўляны дом захаваўся і цяпер знаходзіцца ў распараджэнні Музея гісторыі Ленінграда з мемарыяльнай дошкай... Ус. Вішнеўскаму, які жыў тут у гады блакады.

Тут Ермалаева пазнаёмілася з К. Малевічам, В. Хлебнікавым, У. Маякоўскім, У. Татліным, Р. Іўневым.

У першыя рэвалюцыйныя гады існавала маса накірункаў у мастацтве — ад перасоўніцтва, якое згасала, «Свету мастацтваў», якое страціла лідэра, да поўных сіл левых плыняў. Пасля Кастрычніка футурысты першымі пачалі супрацоўнічаць з новай уладай, вырашыўшы, што сацыяльны пераварот працягвае пачатую імі ў мастацтве рэвалюцыю, што гэта іх рэвалюцыя, і прыйшоў іх час стаць на чале мастацкіх працэсаў.

Увосень 1919 года Петраградскі аддзел выяўленчага мастацтва камандзіраваў Ермалаеву ў Віцебск. Тут яна ўзначаліла мастацка - практычны інстытут, змяніўшы на пасту дырэктара Марка Шагала. Па яе запрашэнні сюды прыехаў і Казімір Малевіч. З вуснаў Малевіча ва ўвесь голас гучала пропаведзь новага мастацтва. Акрамя таго, ён умеў не толькі гаварыць, а і паказваць — вучыць з алоўкам і пэндзлем у руках.

У студзені 1920 года ў Віцебску Малевіч з Ермалаевай арганізоўваюць УНОВІС (Учредители нового искусства), членамі якога сталі Л. Лісіцкі, М. Суецін, І. Пуні, К. Багуслаўская і іншыя.

Якая ж была праграма унавістаў? У Лістку Віцебскага творчага камітэта № 1 ад 20 лістапада 1920 года яны, напрыклад, заклікаюць насіць «чорны квадрат як знак сусветнай эканоміі», чарціць у майстэрнях «чырвоны квадрат як знак сусветнай рэвалюцыі мастацтваў», ачысціць «плошчы сусветнай прасторы ад усёй пануючай у ёй хаатычнасці».

Вера Міхайлаўна з галавой акунулася ў гэтую вясёлую атмасферу, практычна ўвесь свой час аддаючы інстытуту і новаму мастацтву, да таго ж умудраючыся ўдзельнічаць у выстаўцы УНОВІСа ў Маскве і «Першай рускай мастацкай выстаўцы» ў Берліне.

На працягу шэрагу гадоў мастацкае развіццё Ермалаевай праходзіла ў пастаянных творчых сувязях з Малевічам, які даў яе стыхійна-жывапіснаму таленту цвёрды падмурак — культуру колерабудовы, рытму, формы. Гэты ўплыў не ператварыў Ермалаеву ў спадарожнік, што свеціць адлюстраваным святлом. Тое, што рабілася ёю самой, насіла яркі адбітак асобы, якая ўсё перабудоўвае на свой лад.

Віцебскае адраджэнне закончылася гэтак жа раптоўна, як і пачалося: Малевіч і Ермалаева з вучнямі паехалі ў Петраград. Тут узнік знакаміты Інстытут мастацкай культуры (ІНХУК), які ўзначаліў Казімір Севярынавіч. Гэта быў перадавы цэнтр тэарэтычных даследаванняў у галіне мастацтва. Праблематыка, якой тут займаліся, закранала фундаментальныя пытанні — аналіз першаэлементаў пластычнай формы. Аддзеламі інстытута кіравалі буйнейшыя майстры рускага авангарда і мастацтвазнаўцы — М. Пунін, М. Мацюшын, П. Мансураў, У. Татлін, А. Родчанка, П. Філонаў... В. Ермалаева вяла даследаванні ў «Лабараторыі колеру».

У лісце да М. Ларыёнава ў Парыж Вера Міхайлаўна 17 ліпеня 1926 года пісала: «Мы каламся ў самым жывапісе і колеры, у колеравых палях, у будове формы, ва ўсім тым спецыфічным, што розніць мастака ад фатаграфіі і кіно, рэкламы, газеты, кнігі і іншых носьбітаў хадзячых ідэй».

ІНХУК быў яшчэ і навучальнай установай, у якой «перавучваліся» ў Малевіча і Ермалаевай маладыя жывапісцы з Акадэміі мастацтваў. Праз гэту школу прайшлі буйныя ленінградскія майстры, у тым ліку і былыя «віцябляне» — І. Чашнік, М. Суецін, Л. Юдзін, Я. Магарыл. Часам прыходзіў сюды на лекцыі і малады Андрэй Бембель, студэнт акадэміі.

Але поспехі ІНХУКа, яго ўплыў на творчую моладзь рабілі жорсткімі мастакоў аб'яднання АХРР (Ассоциации художников революционной России), якія прагнулі непадзельнага панавання ў мастацтве і з кожным днём набіралі палітычную сілу. Ахраўцы шукалі падтрымкі ў партыйным і дзяржаўным апараце, абапіраючыся на аўтарытэт грамадскіх дзеячаў накшталт Варашылава, Фрунзе, Бухарына, абапіраліся на іх у сваёй барацьбе з мастацкім авангардам. Ісаак Бродскі, напрыклад, «вырас» да прэзідэнта Усерасійскай Акадэміі мастацтваў не без удзелу К. Варашылава...

Амаль усе 20-я гады партыя і дзяржава ўстрымліваліся ад прамых дырэктыўных умяшальніцтваў у мастацкія працэсы, даючы творчым групоўкам магчымасць свабоднага спаборніцтва. Аднак ужо тады гэтае спаборніцтва груп пачынала насіць адценне палітычнай барацьбы. Мастакі АХРР не спрабавалі даказаць, што яны самыя лепшыя, самыя таленавітыя. Іх аргументы былі куды больш важкія — яны самыя «пралетарскія», самыя «адданыя», самыя «рэвалюцыйныя» мастакі, і таму ім трэба аддаць перавагу перад усімі іншымі.

Чым бліжэй набліжаліся 30-я гады, тым больш жорсткімі рабіліся нападкі на авангард. У сувязі з гэтым хачу прывесці фрагмент з пісьма В. Ермалаевай усё таму ж М. Ларыёнаву, датаванага 1926 годам:

«В эту весну нам пришлось выдержать жестокую атаку все тех же ахрровцев. Может быть, вы не знаете, что это за пугала? Это современное передвижничество, их задача выразить через «здоровый реализм» революционную сущность пролетариата. Между тем они вычеркивают себя из революционного хода искусства того же самого творческого пролетариата, парализуя какие-либо новые творческие методы. Их выставка — это море бездарнейших холстов, лишенных какой-либо натуралистической грамотности, на самые нарочито революционные темы. Так вот они-то и хотели сорвать нашу работу, обвинив нас в мистичности и идеалистичности и проведя газетную травлю под заголовком «Монастырь на госснабжении». Но я надеюсь, што энергия, заложенная в нашей группе, не только останется победительницей в этих временных перипетиях каждодневной войны, но сможет стать опорой развеянных группировок беспредметников».

Аднак прагноз мастачкі не спраўдзіўся. «Перыпетыі» былі не часовымі, яны расцягнуліся на доўгія дзесяцігоддзі. Інстытут быў разгромлены, многія мастакі — арыштаваны. Настаў час расправы і над Малевічам. У 1927 годзе выстаўка яго работ адбылася ў Берліне, куды мастак суправаджаў яе, а вярнуўшыся ў Ленінград, ён быў арыштаваны як «германскі шпіён». Праўда, праз тры месяцы ён выйшаў з турмы, але зусім хворым: рак, атрыманы ў выніку нервовага стрэсу, звёў яго ў магілу праз некалькі гадоў.

Вера Міхайлаўна Ермалаева не здолела праводзіць у апошні шлях свайго таварыша і аднадумцу. У гэты час — ішоў 1935 год — пад канвоем салдат НКУС, пад нудотны стук перапоўненых «ворагамі народа» вагонаў, яна кіравалася на ўсход... Але гэта будзе крыху пазней.

А пакуль лёс падарыў Ермалаевай яшчэ некалькі гадоў творчага натхнення. Працуючы ў Дзетгізе, яна была ў ліку тых, хто даў дзіцячай кнізе новае абліччa і вобраз. Без створанага Верай Міхайлаўнай у 20—30-я гады карціна мастацтва кнігі таго часу будзе няпоўнай. Над многімі кнігамі мастачка працавала ў садружнасці з паэтамі-абэрыутамі (членамі аб'яднання рэальнага мастацтва) — М. Забалоцкім, А. Алейнікавым, А. Увядзенскім.

Здаралася, што не вершы, а менавіта жывапісныя работы Ермалаевай былі штуршком да стварэння новай кніжкі — выпадак беспрэцэдэнтны ў мастацтве кніжнай графікі. Так, летам 1928 года Вера Міхайлаўна вандравала па берагах Белага мора. Прывезеныя ёю гуашы і акварэлі літаральна ўразілі ўяўленне А. Увядзенскага, і ён напісаў да іх цудоўныя вершы. Так узнікла адна з лепшых кніжак дзіцячага выдавецтва таго часу — «Рыбакі».

Пасля забойства С. Кірава, як вядома, пачаліся рэпрэсіі і супраць інтэлігенцыі, у тым ліку мастакоў. Якраз у тыя халодныя дні Вера Міхайлаўна заканчвала літаграфскі цыкл да «Рэйнеке-Ліса» Гётэ. Некаторыя мастацтвазнаўцы (Я. Коўтун і іншыя) знаходзяць у гэтай рабоце крытычныя матывы, якія адлюстравалі тагачаснае ленінградскае палітычнае жыццё. Ну, скажам, як успрымаць такую кампазіцыю: да мядзведзя-суддзі ваўкі ў будзёнаўках цягнуць на суд звяроў (заўважым, што прозвішча тагачаснага начальніка ленінградскага НКУС было якраз Мядзведзь).

Калі да Ермалаевай прыйшлі з арыштам, то ў першую чаргу (ведалі загадзя?) накіраваліся да шафы, дзе ляжалі аркушы да «Рэйнеке-Ліса»... Адначасова былі арыштаваны вучаніца Веры Міхайлаўны Маруся Казанская і блізкі сябар У. Сцерлігаў. Уладзімір Васільевіч выйшаў са сталінскіх лагераў, дзякуючы чаму мы маем успаміны пра апошнія гады жыцця Веры Ермалаевай. Абое яны атрымалі па пяць гадоў лагераў. Везлі іх на ўсход у адным эшалоне. У стэпе наладжвалі праверкі, усіх выганялі з вагонаў, шарангавалі, і пачыналася: «Устаць! Легчы!» Уладзімір Васільевіч успамінаў, як цяжка было падымаць паралізаваную Ермалаеву.

Апынуліся яны ў адным лагеры пад Карагандой. Адседзеўшы свае пяць гадоў, Сцерлігаў выйшаў на свабоду. Вера Міхайлаўна ж аўтаматычна атрымала дадатковы тэрмін. Разам з партыяй зняволеных яе пагрузілі на баржу, і ўсіх высадзілі на нейкім пясчаным востраве Аральскага мора. Гэта апошняе, што нам вядома пра лёс мастачкі.

Так, рускі авангард даў бліскучую плеяду жанчын. Па-рознаму складліся іх асабістыя лёсы і лёсы творчасці. Наталля Ганчарова сусветна вядомая, але толькі спецыялісты ведаюць Вольгу Разанаву і Елізавету Круглікаву, Аляксандру Экстэр і Любоў Папову, Надзею Удальцову і Варвару Сцяпанаву. І амаль невядома гледачам Вера Ермалаева — зорка першай велічыні на небасхіле айчыннага мастацтва. Толькі пасля многіх гадоў забыцця, у 1972 годзе, у Ленінградзе ўдалося арганізаваць яе невялікую выстаўку. Праўда, падрыхтаваны да яе каталог так і не далі надрукаваць, а з экспазіцыі тагачасным кіраўніцтвам ЛОСХа былі забраны лепшыя работы.

Сёння, думаецца, настаў час звязаць абарваныя ніці, успомніць, кім была Вера Міхайлаўна Ермалаева для Беларусі, для Расіі, для свайго часу і гісторыі культуры.

Барыс КРЭПАК.

**НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ**

## ПАСЛЯ 200-ГАДОВАГА ЗАБЫЦЦЯ...

**Не абмініце канцэрт, які мае адбыцца 28 сакавіка ў камернай зале, што на Залатой Горцы ў Мінску! Чарговая праграма з цыкла «Анталогія беларускай вакальнай музыкі», які задумаў і ажыццяўляе вядомы спявак В. Скорабагатаў,— прыемная сенсацыя. Гэта сюрпрыз для ўсіх неабыякавых да ідэі нашага духоўнага адраджэння, для ўсіх, каго цікавяць забытыя старонкі культуры, хто проста любіць музыку.**

**Заслужаны артыст БССР лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Віктар СКОРАБАГАТАЎ расказвае карэспандэнту «ЛіМа»:**

— «Анталогію» ўтвараюць дзве свайго роду плыні: праграмы з твораў беларускіх кампазітараў XX стагоддзя і гістарычныя канцэрты. Ужо выконваўся «Полацкі сшытак» — музычны помнік эпохі барока і «Куранты» — датаваныя 1733 годам. Новая праграма працягвае знаёмства з культурай XVIII стагоддзя.

Найперш, гэта чатыры канты на вершы Сімяона Полацкага: адзін з іх напісаны В. Цітовым, астатнія — невядомымі кампазітарамі. Унікальная назва на афішы — «Агатка», опера І. Д. Голанда на лібрэта Мацея Радзівіла. Навукоўцы даўно ведалі пра існаванне «Агаткі», але меркавалі, што ноты страчаны, загінулі ў вайну. Наша даследчыца Вольга Дадзіёмава знайшла яе ў Польшчы, цяпер ноты ёсць і ў нас, пра што, дарэчы, была публікацыя ў «ЛіМе». Уладзімір Іосіфавіч Мархель перакладае лібрэта на беларускую мову з польскай. І тры арыі з «Агаткі», прэм'ера якой адбылася ў 1784 г. у Нясвіжы, упершыню пасля 200-гадовага забыцця прагучаць у гэтым канцэрце.

Гэтаксама ўпершыню пасля 200-гадовага забыцця прагучаць рамансы Міхала Клеафаса Агінскага на яго ўласныя вершы (пераклад У. Мархеля). Там ёсць рэчы проста унікальныя. Скажам, рамантычныя павевы, якія ў еўрапейскім мастацтве з'явіліся куды пазней — гэтак на чвэрць стагоддзя — у ягонай творчасці зусім натуральна ўжываюцца побач з эстэтыкай класіцызму... Чаму пераклады робіць менавіта У. Мархель? Мы звярнуліся да яго як да спецыяліста, што шмат гадоў займаецца беларускай польскамоўнай літаратурай і бліскуча валодае абедзвюма мовамі.

На афішы ёсць імя Восіпа Казлоўскага. Чаму мы ўключылі ягоную музыку ў «Анталогію»? Перад тым, як трапіць у імператарскую капэлу Екацярыны II, перад тым, як «зрабіцца аўтарам славутага «Гром победы, раздавайся!», ён жа быў настаўнікам Міхала Клеафаса Агінскага ў Слоніме. Ды і нарадзіўся ён у Прапойску, цяперашнім Слаўгарадзе, і, дарэчы сказаць, пасля інсульта, які здарыўся з Казлоўскім у Пецярбурзе, ён вярнуўся ў Прапойск і да скону дзён жыў ужо там і кіраваў мясцовай капэлай. І ўжо калі, скажам, украінцы Бартнянскага ды Беразоўскага зусім не адмаўляюць, а ўсяляк заахвочваюць прызнанне іх як украінскіх кампазітараў, дык у нашым выпадку падстаў куды болей, каб лічыць В. Казлоўскага прадстаўніком беларускай культуры.

А яшчэ мы нагадаем арыі з камічнай оперы «Апалон-заканадаўца» Р. Вардоцкага, твора ўжо, дзякуй Богу, вернутага з нябыту пару гадоў таму, але выкананага толькі адзін раз і забытага зноў...

На вялікі жаль, Беларусь не мае ні музычнага выдавецтва, ні сваёй студыі грамзапісу. І калектыў падзвіжнікаў працуе фактычна дзеля аднаго выступлення. Гэта Вольга Дадзіёмава, якая здабывае ў архівах і даследуе музыку XVIII стагоддзя і ўжо вярнула на Беларусь нямала страчаных старонак культуры. Гэта і Уладзімір Мархель, без працы якога не было б і канцэрта. І ансамбль «Кантабіле», які інструментуе нотны матэрыял у адпаведнасці са сваім складам, і канцэртмайстар Ганна Каржанеўская. Рыхтуючы праграму, гэтаму невялікаму калектыву давялося працаваць і за рэдактараў, і за карэктараў, і за гісторыкаў-музыказнаўцаў...

Я ўсіх запрашаю на канцэрт: музыка цудоўная і надзвычай адметная па сваіх мастацкіх якасцях. І ці ж не цікава — якія ж былі музычныя густы нашых продкаў дзвесце гадоў таму?

Н. К.

УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

## Сяржук СЫС



Сяржук Сыс нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа Рэчыцкага раёна. Вучыцца ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны, працуе ў «Гомельскай праўдзе». Гадуе дачку і сына. Вось і ўся ягоная кароткая біяграфія. Дададзім яшчэ, каб развеяць чуткі: знаны паэта Анатоль Сыс даводзіцца яму... цёзкам па прозвішчы і земляком. Толькі і ўсяго.

●

Хадзем са мной, па шэрых тварах дзён,
Па спінах слоў, знявечаных падманам,
Няхай грымяць пракляцці наўздагон
І недаверу рушацца парканы.

Ёсць дзіўны свет, ёсць свет першаасноў,
Жывуць там у іншым вымярэнні:
Там мераюць напалмам палкія слоў
Дабро і зло, жыццё і нават цені.

Хадзем са мной, нядоўгім будзе шлях
І пыл сляды умомант зацярушыць,
А на мяжы рассунецца зямля
І забярэ параненыя душы.

Хадзем жа прэч адсюль, бяжым хутчэй,
Яшчэ ёсць час застацца вартым веры
У вечную паэзію вачэй,
Напоўненых спагадай і даверам.

●

Калі твае крокі — адзіная музыка ночы,
А рэха-кувалда падэшвы ў асфальт уціскае,
Здаецца, што той, хто нябачны, цікуе і сочыць,
І побач крадзецца, і постаць яго нелюдская.

У ракаўку жаху затулена дрогкае цела,
Сляпы, бо не маеш ні веку, ні веры, ні волі,
А ноч панавысыпле зор, найярчэйшых і спелых,
Агнёў, ды такіх, што...ўсё роўна не ўбачыш ніколі.

Чакай жа, нябога, спыні пошчак крокаў таропкі,
Зірні ў зіхатлівую прорву халоднага срэбра,
І той, хто цікуе, пражытаю зробіцца кропкай,
А той, хто быў ты, стане часткаю ночы і неба.

●

Пазрываныя з неба ружы,
Адшуканыя ў лузе зоры
І амаль звар'яцелае сонца,
Быццам дар, пакладу каля ног.
І парвуцца сталёвыя «нельга»,
І сплятуцца дрыготкія пальцы,
І амаль звар'яцелае сонца
Спаліць ветах нашых трывог.
Хай спачатку не хопіць слова,
Потым — нават яго замнога
І амаль звар'яцеламу сонцу
Не пазнаць глыбінь нематы.
У рэшце рэшт, ці такая нязбытнасць
Твая згода і кветкава-зорна,
І амаль звар'яцелае сонца,
Калі недзе ёсць я і ты.

### Коні

Пад сытаю поўняй — коні,
Па сіняму полю — коні,
Ляцяць і знікаюць коні,
Шумяць верасы-лясы,
Я ведаў пра іх, здаецца,
Яшчэ да народзін поўні,
Магчыма, прыблуда-рэха
Украла іх галасы.
Магчыма, і так... не варта
Ламаць крохкі куфар часу.
Яны недзе ёсць, я веру,
І досыць абрыдлых слоў!
Пазбаўлены сноў і волі,
Адчуўшы адчай пустэльняў,
Я зведаў абдымкі поля,
Я поле сваё знайшоў.
А ноччу ляцелі ў цемру
Няўлоўныя цені коней,
І вольныя грывы вецер
Да зорнай уздымаў мяжы.
Дальбог, ці было ўсё гэта!
І коні па полю, коні,
І коні пад сытай поўняй,
І сам я ці быў, ці жыў!.

### «Зло»

Раней
Марыў я
Мастаком стаць вялікім
І лёс свой распнуць перад тронам Мастацтва,
Ды ў час на мяне нехта д'ябла наклікаў
І я захварэў раптам
Думкай
Вар'яцкай.

Каб
Чрнае фарбы
Сабраць дастаткова —
Хоць душы людскія і пекла на злом!—
Не хопіць, бясспрэчна, на твор адмысловы
Задуманы мною
Пад назваю
«Зло».

г. Гомель.

# «ГЭТА—МУЗЫЧНАЯ ТЭРАПІЯ...»

## Наш суразмоўнік — адзін са стваральнікаў ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле» заслужаны артыст БССР Валерый ФРАЛОЎ



**Усе гады творчай дзейнасці гэтага музыканта аддадзены беларускаму мастацтву, а 15 з пражытых 50-ці гадоў — любімаму ансамблю... Мы сядзім у залітым сонцам класе на другім паверсе філармоніі. Са сцэны далятаюць гукі настройкі інструментаў: гэта сімфанічны аркестр рыхтуецца да рэпетыцыі. Звычайная рабочая атмасфера. І няма настрою на ўрачыстую юбілейную гутарку. Ды ўсё ж я рызыкую задаць традыцыйнае пытанне:**

**— 50 гадоў — важны рубеж у жыцці кожнага чалавека, час сур'ёзных вынікаў. Што азначае гэтая дата для вас?**

— Гэта хутчэй не вынік, а адкрыццё новага этапу творчасці. Для мяне больш важны юбілей ансамбля «Кантабіле», якому 9 сакавіка споўнілася 15 гадоў. З гэтым калектывам я звязаны з моманту яго стварэння, яму аддадзена шмат сіл і працы, якая прыносіла і прыносіць радасць творчасці.

**— Няма патрэбы прадстаўляць чытачам «ЛіМа», як і беларускаму слухачу, «Кантабіле». Яго канцэрты рэгулярна праходзяць у залах Белдзяржфілармоніі. Ансамбль аб'ездзіў з гастролямі амаль увесь Саюз, удзельнічаў у фестывалях старадаўняй музыкі ў Калінінградзе і Шаўляі. І паўсюль прэса пісала пра высокае прафесійнае майстэрства артыстаў і арыгінальнасць іх канцэртных праграм. Вы іграеце музыку 17—18 стагоддзяў: Баха, Гендэля, Тэлемана, Тарціні, іншых тагачасных кампазітараў. Чаму, на вашу думку, старадаўняя музыка знаходзіць водгук у душы сучаснага слухача?**

— Думаю, таму, што яна даступная і зразумелая нашым сучаснікам. У ёй, у прыватнасці ў музыцы барока, заключаны велізарныя эстэтычныя багацці, шмат прыгожых і высакародных мелодый. Менавіта мелодыя надае музыцы сапраўдную прыгажосць.

**— Ці лічыце вы, што старадаўняя музыка можа заваяваць любоў цяперашняй моладзі, выхаванай на року?**

— Безумоўна. Музыка ж не толькі забаўляе. Яна памагае задумацца пра жыццё. Я проста перакананы, што пасля канцэрта класічнай музыкі чалавек не пойдзе на вуліцу хуліганіць, гвалтаваць, забіваць.

**— Стылёвы напрамак праграм ансамбля — свядомы выбар, ці ён вызначыўся па нейкіх іншых прычынах?**

— Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба вярнуцца да самага пачатку. Разам з флейтыстам Генадзем Гедыльтэрам мы працавалі тады (як, дарэчы, і цяпер) у сімфанічным аркестры, а ў вольны час ігралі дуэтам старадаўнюю музыку. Можна сказаць, што гэта было наша хобі. Пра гэта даведаўся Юрый Цырук, тагачасны дырыжор Мінскага камернага аркестра. Ён і прапанаваў нам стварыць ансамбль старадаўняй музыкі.

**— У рэпертуары «Кантабіле» заўсёды было шмат невядомых шырокаму слухачу кампазітарскіх імёнаў і твораў...**

— Мы імкнёмся адкрываць новае. Пэўную эпоху слухач звычайна ўяўляе толькі па творчасці геніяў. Але гэта асобныя, хоць і неверагодна яркія індывідуальнасці. А нам хочацца паказаць, напрыклад, музыку эпохі барока ва ўсёй яе паўнаце і разнастайнасці. Таму мы выконваем творы, якія рэдка гучаць у канцэртах.

**— Як вы знаходзіце іх? Працуеце ў архівах, самі перапісваеце ноты са старадаўніх манускрыптаў?**

— Гэта не зусім так. З архіва да нас трапіў «Полацкі сшытак», але яго падарыў ансамблю даследчык Адам Мальдзіс. Нашы ўласныя пошукі ў асноўным праходзяць у бібліятэках і нотных магазінах. Калі я бачу ў зборніку папулярных твораў п'есу, якая выконваецца рэдка, альбо імя невядомага аўтара, я тут жа куплю гэты зборнік.

**— Валерый Васільевіч, «Кантабіле» даўно вядомы ў рэспубліцы і ў Саюзе. Аднак ансамбль дасюль не з'яўляецца штатным калектывам філармоніі. Якая прычына?**

— Яна звязана з нашымі творчымі прынцыпамі. Былі прапановы ад дырэкцыі філармоніі перайсці ў штат. Гэта дало б магчымасць спакойна рыхтаваць праграмы, мець дакладна спланаваны графік канцэртаў. Але тады ўдзельнікам ансамбля давялося б пайсці з сімфанічнага аркестра, бо амаль усе мы там працуем. А гэта немагчыма, бо аркестр дае нам як музыкантам вельмі многа.

**— Такі прынцып, калі інтарэсы творчасці — вышэй за ўсё, нават калі яны прыносяць вялікія цяжкасці і шмат працы, — падмурак поспехаў «Кантабіле». І гэта не проста словы. Кожнае новае выступленне перад мінскай публікай — гэта новая праграма. Часцяком яна рыхтуецца дзеля аднаго выступлення. Сумяшчаць рэпетыцыі ў ансамблі і ў аркестры цяжка ва ўсіх адносінах. Не кожны вытрымае гэткі напружаны рытм. За 15 гадоў існавання ў «Кантабіле» змянілася, наколькі я ведаю, 14 чалавек. Са «старых» сёння засталіся толькі габаіст Фралоў і флейтыст Гедыльтэр. Аднак прафесійную марку ансамбль трымаў заўсёды, бо тут працавалі і працуюць музыканты вельмі высокага ўзроўню...**

— Мабыць, мы адзіны ў рэспубліцы калектыў, які не мае мастацкага кіраўніка. Усе праблемы вырашаем супольна: арганізацыя гастроляў, пошук новых твораў, пытанні інтэрпрэтацыі... Але думаю, што музыкантам такога прафесійнага ўзроўню, як у нас, і не патрэбны мастацкі кіраўнік. Вядома, бывае, узнікаюць творчыя спрэчкі, як, напрыклад, сыграць той ці іншы твор. Але гэта рознагалоссі творчыя.

У канцы сакавіка сімфанічны аркестр едзе на гастролі ў Італію. Таму, відаць, юбілей давядзецца адзначаць на канцэрце, седзячы з інструментам на сцэне. А «Кантабіле» будзе прадаўжаць працу. Хочацца скласці праграму са старадаўніх твораў беларускай музыкі, але пакуль ёсць праблема пошуку нотаў.

**...Валерый Васільевіч заспяшаўся на рэпетыцыю. А мне падумалася: добра, што ў наш час ёсць людзі, якія сваім жыццём і сваёй працай пераконваюць у існаванні непахісных чалавечых каштоўнасцей: любові да сваёй прафесіі, імкнення ўкладаць у работу ўсю душу. Іначай проста немагчыма займацца творчасцю: без гэтага няма сапраўднага мастацтва.**

Таццяна ВАЛАЧКОВІЧ.

# ЦІ БЫЛІ КУЛАКІ НА БЕЛАРУСІ?

**(Пачатак на стар. 5).**

ся. А дзеля гэтай мэты і выразы «кулак», «сацыяльная вайна» падыходзілі як не трэба лепш.

Разгледзім узаемаадносіны беларускіх сялян больш падрабязна. Дзеля гэтага звернемся да падзей першай расійскай рэвалюцыі — як найбольш вывучаных. Калі ўжо і была ў вёсцы сацыяльная вайна, дык у той пагрозлівы час яна абавязкова павінна была б выявіцца. Аднак аказваецца, што на працягу 1905—мая 1907 гг. адбылося ўсяго 21 выступленне супраць заможных вяскоўцаў. Удзельная вага такіх выступленняў у сялянскім руху тых гадоў складала 0,4%. Вось вам і сацыяльная вайна. Тэрмін гэты, як бачыце, ніяк не падыходзіць для характарыстыкі ўзаемаадносін паміж сялянамі.

Нам не ўдалося выявіць ніводнага факта выступлення сельскагаспадарчых рабочых супраць вясковых багацеяў. Таму і выходзіць, што класавай барацьбы паміж сялянамі Беларусі ў часы першай расійскай рэвалюцыі не назіралася. Праўда, парабкі наймаліся і да менш заможных сялян. Але і тут рабочыя-вяскоўцы не маглі мець асаблівай варожасці супраць гаспадароў, якія разам з імі рабілі ў полі, садзіліся з імі за адзін стол.

Дык што ж уяўлялі сабой тыя сутыкненні паміж сялянамі, аб якіх гаварылася вышэй? Здаралася ж, што вяскоўцы разносілі ўшчэнт будынкі хутаран і пры гэтым заяўлялі: «Нам ужо новых паноў не трэба». Зразумела, што гэтыя выступленні не былі праявай класавай барацьбы. Яны праводзіліся не сельскагаспадарчым пралетарыятам і накіроўваліся не супраць сялянскіх капіталістаў-кулакоў. Такія сутыкненні былі праявай звычайнай канкурэнцыі дробных і больш буйных вытворцаў, якія назіраліся і ў горадзе паміж саматужнікамі. Бедната ўсяляк шкодзіла сваім спрытнейшым і больш шанцавітым суседзям, бо кіравалася патрыярхальнымі ўяўленнямі аб сялянскім жыцці ды і простай чалавечай зайздрасцю. Так заўсёды было на першых этапах прадпрымальніцтва, калі сярод больш-менш роўных па багацці вылучаліся лідэры.

Тут мы хутчэй маем справу з сялянскім адзінствам. На чым жа яно трымалася? Вяскоўцаў згуртоўвала рэвалюцыя. І ў бедных і ў багатых была адзіная мэта — прыдбаць зямлі за кошт паноў. Здаралася, што ў асобных месцах у забастовачным руху ўдзельнічала пагалоўна ўсё сельскае насельніцтва. Заможныя сяляне нават падбухторвалі аднавяскоўцаў на больш працяглыя стачкі, каб разарыць пана, абяцалі забастоўшчыкам матэрыяльную дапамогу. Былі выпадкі, калі сялянскія выступленні ўзначальвалі заможныя гаспадары.

Важна падкрэсліць, што вясковыя багацеі не сталі на бок контррэвалюцыі. Ад палітычнага расколу беларускае сялянства прадухілялі адносна нізкая маёмасная размежаванасць, саслоўна-этнічная еднасць і адзінства духоўных традыцый. Фактычна гэта была агульнанацыянальная еднасць, таму што беларуская нацыя была пераважна сялянскай. Як паказала рэвалюцыя, агульнасаслоўныя ці агульнанацыянальныя інтарэсы сялянскай нацыі — збаўленне ад паўпрыгонніцкіх перажыткаў у землеўладанні і ў сістэме дзяржаўнага ладу — аказаліся мацнейшымі за супярэчнасці паміж багатымі і беднымі. Адзінства вяскоўцаў захоўвалася і надалей.

Прыйдзе час і мы зразумеем, што ўсе людзі не могуць быць роўнымі. Працавітыя і таленавітыя заўсёды імкнуцца выявіць свае здольнасці і атрымаць адпаведную ўзнагароду. Ад гэтага карысць і гонар для ўсёй нацыі. А таму ўслед за М. Бярдзяевым скажам—усякае ўроўніванне людзей пазбаўлена сэнсу.

Уладзімір КАЗБЯРУК

# ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ,

## або Крок наперад, два крокі назад

### III

ПРАІСНАВАЎШЫ УСЯГО ТОЛЬКІ МЕСЯЦ, Беларусь, хоць яна і лічылася савецкай, па волі РКП(б) знікла з карты Еўропы, а яе месца заняла так званая ЛітБел са сталіцай у Вільні.

Магло б здавацца, што толькі так і трэба было рабіць, што аднаўлялася гістарычная справядлівасць. На працягу ж некалькіх соцень гадоў, да самых падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя, Беларусь і Літва ўваходзілі ў склад адной дзяржавы. І нікому тады не магло б прыйсці ў галаву дзяліць іх. Гаворка магла б весціся толькі пра тое, ці заставацца ім часткай так званай Рэчы Паспалітай абодвух народаў (у самой гэтай назве літоўцы і беларусы ўяўляюцца адным народам), ці, можа, аб тым, каб далучыцца да Расіі. Бо былі прыхільнікі і такой канцэпцыі. Але ні ў кога не ўзнікала пытання аб магчымасці аддзялення этнаграфічнай Беларусі ад этнаграфічнай Літвы. Дык, можа, ў 1919 годзе была адноўлена гістарычная справядлівасць — толькі на сацыялістычным фундаменце? Тым больш, што сталіцай станавілася тая ж самая Вільня?

Не, не зусім. І нават зусім не.

Па-першае, ад Беларусі засталася толькі частка, ад сямі раёнаў толькі два ці тры. Усё астатняе было разрабавана.

Па-другое, беларусаў нават і блізка не падпускалі да кіраўніцтва гэтай так званай дзяржавы. І тут я зноў у сведкі паклічу Кнорына, які паведамляў: «Працэс зліцця (Літвы і Беларусі.—**У. К.**) зацягнуўся на цэлы месяц. Аб'яднаны ўрад складаўся з трох груп: работнікаў літоўскага ўрада (Міцкевіч-Капсукас, Алекса-Ангарэціс, Браноўскі-Вайнштэйн, Бельскі, Олдак, Гінзбург, Дзіманштэйн), работнікаў беларускага ўрада (Рэйнгольд, Разенталь, Савіцкі, Берсан) і работнікаў ЦВК КРП Польшчы (Ляшчынскі і інш.). Вільня і польска-літоўскія работнікі пачалі адыгрываць кіруючую ролю, сталі фактычна вызначаць палітыку аб'яднанай рэспублікі» (с. 54).

Вось аказваецца якіх «беларусаў» выкапалі для таго ўрада! Але ўсё яны рабілі ад імя беларускага народа і за сусветную камуну хапаліся, і Савецкую Беларускую рэспубліку абвяшчалі, і расчлянялі яе, і аддавалі рэшткі Літве (пад выглядам аб'яднання), і прадпрымалі захады для ліквідацыі таго, што яшчэ заставалася.

Па-трэцяе, у Вялікім княстве Літоўскім да пары, да часу дзяржаўнай мовай была беларуская. У ЛітБеле пра яе не было каму заікнуцца.

Словам, рэальнай беларускасці ў той так званай дзяржаве не засталося і следу. Тым бальшавікам, якія заказвалі пагоду на нашай зямлі, яна ніколі не была патрэбнай. Больш таго, беларушчына як паняцце, як ідэя ў любым выглядзе замінала ім, як тая костка ў горле, якую трэба было б, нясцерпна хацелася б адолець, праглынуць, але яна ўсё не давалася. І гэтак, і сяк прабавалі, а яна тырчала ўпоперак.

Падумаць толькі. Недзе там на гарызонце ці за самым гарызонтам вось-вось выбухне фантастычна-асляпляльным феерверкам сусветная рэвалюцыя, якая знішчыць усе нацыянальныя межы, адрозненні, забабоны, а тут нейкія адсталыя і шкодныя нацыяналісты чапляюцца за сваё, дробнабуржуазнае, за той стары свет, які павінен быць разбураны дашчэнту, да тла, каб і следу не засталося. І таму па рэвалюцыйных законах такі нацыяналізм трэба было няшчадна выкарчоўваць, нішчыць — прытым усюды, у тым ліку і ў сваіх шэрагах.

Лёс ЛітБела аказаўся сімптаматычным. Праз кароткі час палітычная гульня ў так званую «дзяржаўнасць» надакучыла бальшавікам, пра што на свой манер красамоўна пісаў Кнорын у пачатку восені таго ж 1919 года: «Белорусско-литовская государственность изживает себя как практическая необходимость для творческой советской работы, она становится лишь фактором в международных отношениях.

Притом поскольку белорусская буржуазия нашла себе верную пристань в объятиях польской контрреволюции, поскольку белорусская буржуазия изжила свои юношеские мечты о самостоятельном национальном государственном существовании, поскольку Белоруссия как самостоятельная социалистическая республика теряет и свой международный политический смысл» (с. 55).

Так сцвярджаў не радавы пісака, не пешачка і не сошачка, не вінцік або шрубок у палітычнай машыне, а адзін з лідэраў бальшавіцкай партыі на тэрыторыі Беларусі. Пра тое ж, як утульна адчувала сябе БНР у так званых «объятиях польской контрреволюции», мы маем магчымасць даведацца з першакрыніцы — з брашуры Антона Луцкевіча «Польская акупацыя ў Беларусі», апублікаванай у Вільні ў 1920 годзе (гл. часопіс «Беларусь», 1990, № 9).

У выніку рознага роду маштабных палітычных маніпуляцый на шляху да здзяйснення рэальных патрэб беларусаў як нацыі, якая абудзілася да свядомай гістарычнай дзейнасці (а гэта У. І. Ленін бачыў яшчэ ў 1916 годзе!) пасля кроку наперад, зробленага пад уплывам Лютаўскай рэвалюцыі, эмісары Кастрычніка ў лютым 1919 года далі каманду адступіць два крокі назад. Уся гэтая палітыка ўкладвалася ў рамкі ленінскай тэорыі і практыкі адносна пытанняў аб праве нацый на самавызначэнне. Іменна У. І. Ленін у перыяд грамадзянскай вайны вучыў: «Але ні адзін марксіст, не парываючы з асновамі марксізму і сацыялізму наогул, не зможа адмаўляць, што інтарэсы сацыялізму стаяць вышэй, чым права нацый на самавызначэнне» (У. І. Ленін. Поўны зб. тв., т. 35, с. 251). Так было сказана 7 студзеня 1918 года. Такія выказванні можна было б прыводзіць яшчэ і яшчэ.

Што ж датычыць статуса ЛітБела як намінальна суверэннай рэспублікі, то, мабыць, пра гэта дастаткова аб'ектыўна сказаў сам Кнорын: «...У першы перыяд свайго існавання (віленскі перыяд) гэта рэспубліка мела сапраўды прыкметы самастойнага дзяржаўнага існавання і самастойна вырашала важнейшыя пытанні мясцовай палітыкі, а ў другі (мінскі) перыяд, мала-памалу падпарадкоўваючы ўсю сваю работу задачам вайны і абароны, з прычыны абвешчанай цэнтралізацыі ваеннага камандавання і ваеннага ўпраўлення, траціла сваю ўяўную(!) незалежнасць і станавілася фактычна часткай РСФСР, адміністрацыйна падпарадкаванай Маскве нароўні з астатнімі губернямі.

Гэта — цэлая эпапея развіцця Беларусі, зараджэння, росту і завядання нашай рэспублікі...» (с. 47). Як бачым, Кнорын яшчэ ў 1919 годзе палічыў патрэбным сказаць аўтарытэтна пра «завяданне» беларускай савецкай дзяржаўнасці, пра непазбежнасць і апраўданасць гэтага працэсу.

Тэарэтычныя вывады і ацэнкі Кнорына ляжалі ў аснове ўсёй палітычнай дзейнасці яго самога і яго аднадумцаў, і нам мэтазгодна пазнаёміцца з яго канцэпцыямі не ў пераказе, які заўсёды нешта збядняе, а ў іх натуральным выглядзе. І таму за інфармацыяй аб ідэйнай платформе Кнорына звернемся да яго самога, да яго разважанняў «Восем месяцаў Савецкай Беларусі», апублікаваных у верасні і кастрычніку 1919 года ў бальшавіцкай газеце «Звязда». Аўтар там даволі дэталёва аналізуе са сваіх ідэйных пазіцый тагачасную палітычную сітуацыю ў Беларусі і, у прыватнасці, піша:

**«Урад Савецкай Беларусі, які ўтварыўся 1 студзеня (1919 года. — У. К.), складаўся з дзвюх груп. Першая — работнікі Заходняй Камуны і мясцовай арганізацыі Камуністычнай партыі (Мяснікоў, Калмановіч, Пікель, Рэйнгольд, Іваноў і інш.) і другая — беларусы-камуністы, звязаныя з беларускім нацыянальным рухам (Жылуновіч, Шантыр, Фальскі, Дыла і г. д.). Першая з гэтых груп ставіла сваёй задачай працягваць у часовым урадзе Беларусі тую самую палітыку і тую самую практычную савецкую работу, якую яна вяла ў складзе Аблвыканзаха, цесна звязваючыся з Масквою і кіруючыся заўсёды і ўсюды дэкрэтамі Саўнаркома РСФСР. Другая група не магла прымірыцца з такой палітыкай. Для яе самастойнасць Беларусі не была толькі пустым гукам (!!!). Яна ўшчэнт была прасякнута ідэяй нават не тэрытарыяльнай, а беларуска-нацыянальнай дзяржаўнасці (...). Для іх, у большасці былых грамадаўцаў (Дыла, Квачанюк, Фальскі і інш.), зусім незразумелай была інтэрнацыяналісцкая палітыка Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, і яны (Жылуновіч, Шантыр і інш.) выношвалі думку арганізаваць у працівагу ёй сваю, беларускую Камуністычную партыю. (...) Узнімалася пытанне аб выданні ў Мінску газеты на беларускай мове, на што ЦБ (Цэнтральнае бюро КП(б)Б. — У. К.) таксама адмовілася асігнаваць якія б там ні было сумы, ведаючы, што народныя масы Мінскай губерні амаль што не чытаюць па-беларуску (...)**

**Акрамя гэтых некаторых фактаў, якія сведчаць аб асаблівым нацыяналістычным ухіле часткі членаў урада, трэба канстатаваць, што ўся савецкая іх дзейнасць была падпарадкавана задачам нацыянальным. Гэта ўжо выявілася пры арганізацыі самога ўрада. Нацыяналістычнаю групаю з неабходных 15 кандыдатаў было вылучана 8, у тым ліку яўныя авантурысты і прайдохі, накшталт Драко-Дракона, якія нічога не разумеюць у савецкім будаўніцтве, накшталт белетрыста Д. Жылуновіча (Цішка Гартны) і інш(ых), і толькі з вялікай цяжкасцю аблвыканзахаўскай часткі і ЦБ КПБ(б) удалося стварыць дзелавую большасць. У практычнай рабоце нацыяналіст(ычная) частка, аднак, на працягу ўсяго месяца амаль не прымала ўдзелу, а займалася інтрыгамі супраць другой, аблвыканзахаўскай, часткі, пытаннямі беларускага нацыяналістычнага руху і да т. п.» (с. 53).**

Хіба ж можна было трымаць і цярпець такіх нацыяналістаў ва ўрадзе? Падумаць толькі: яны патрабавалі газету на беларускай мове!

Разагнаўшы ўрад З. Жылуновіча, Кнорын з гонарам і радасцю мог падводзіць вынікі: «Гэтым самым у час(овым) урадзе Сацыял(істычнай) Савецкай Беларусі былі ліквідаваны ўсякія магчымасці нацыяналістычнай палітыкі, быў ліквідаваны нацыянальна-беларускі элемент і ўсякія сепаратныя тэндэнцыі» (с. 53).

Кнорыны глядзелі на беларускі народ як на «рабоче-крестьянские массы» тутэйшых, якія ні імя свайго не могуць мець, ні права на карыстанне сваёй мовай за межамі роднай хаты або вёскі і якім за тое даецца радасная магчымасць думаць пра сусветны бальшавізм. Але ні ў якім выпадку іх нельга дапускаць да ўдзелу ў кіраванні справамі сваёй «Заходняй вобласці», «Заходняй камуны», «ЛітБела», бо яны ніяк не зразумеюць, дзе іх шчасце, і пацягнуць не ў той бок: ім захочацца то сваёй мовы, то сваёй газеты, то сваёй школы або яшчэ чаго-небудзь... І былі прыняты рашучыя меры, каб пакончыць з той ва ўсіх адносінах фіктыўнай самастойнасцю. Яшчэ раз дамо слова Кнорыну, каб пабачыць, як гэта ажыццяўлялася:

**«Калі 1 лютага (1919 года. — У. К.) на І Усебеларускім з'ездзе Саветаў было вырашана пачаць перагаворы аб уступленні ў федэратыўную сувязь з РСФСР, то зараз ужо сам ЦК КП(б)ЛіБ павінен прызнаць нямэтазгоднай шырокую заканадаўчую дзейнасць СНК Л і Б, а знаходзіць мэтазгодным перавыданне расійскіх дэкрэтаў і загадаў. Гэтай пастановай прызнаецца, што фармальна самастойнай Літве і Беларусі пара ўжо стаць толькі ценем (!) РСФСР, што пара адмовіцца ад самастойнасці з мэтай найбольшага выкарыстання ўсіх сіл краіны для абароны. У цэлым шэрагу актаў і выступленняў мы бачым, як адна галіна дзяржаўнай работы за другою ўсё больш і больш падпарадкоўваецца кіруючым савецкім органам Масквы.**

**Беларуска-літоўская дзяржаўнасць зжывае сябе як практычная неабходнасць для творчай савецкай работы, яна становіцца толькі фактарам у міжнародных адносінах. (...)**

**Такім чынам — фактычныя ўмовы савецкай работы ў Беларусі накіроўваюць нас па шляху да магчыма хутчэйшага зліцця з РСФСР» (с. 54—55).**

Так адбывалася ліквідацыя Савецкай Беларусі, урачыста абвешчанай 1 студзеня 1919 года. Магільшчыкамі яе сталі Мяснікоў, Кнорын, Ландэр і ўся іх «інтэрнацыянальная» кампанія. ССРБ, створаная пад непасрэдным уздзеяннем Беларускай Народнай Рэспублікі (што так красамоўна засведчыў сам Кнорын), з моцнай апорай на яе ідэйную платформу, аказалася недастаткова падатлівай на рознага роду інтэрнацыяналісцкія эксперыменты, не надта хацела падпарадкоўвацца неабмежаванаму дыктату чужынцаў і няўхільна, без хістанняў ажыццяўляць іх антынацыянальную палітыку.

### IV

МЫ СЁННЯ БАЧЫМ, як дорага каштавалі нашаму грамадству спробы ажыццявіць карэнныя сацыяльна-палітычныя пераўтварэнні ў краіне без найменшага жадання ўспрымаць разумныя думкі, абмяркоўваць альтэрнатыўныя праграмы, тым больш, што ўзяліся перабудоўваць свет людзі непісьменныя, якія ў вайну навучыліся разбураць «до оснований», «до тла», але элементарнага ўяўлення не мелі аб будаўніцтве чагосьці новага — калі не лепшага, то хаця б не горшага.

Беларускія дзеячы выразна ўсведамлялі згубнасць і катастрафальны характар такой дактрыны. Нездарма газета «Звон» яшчэ ў 1919 годзе так абачліва заўважыла: «Мы не бальшавікі і ня думаем, што трэба раскідаць стары сьвет, а пасьля збудаваць на яго мейсцы новы. Мы думаем, што жывучы ў старым доме трэба будаваць новы і перайсьці ў яго, калі ён будзе гатовы» (№ 3 ад 29 жніўня).

Калі сёння цвяроза і аб'ектыўна разглядаць падзеі перыяду грамадзянскай вайны, то можна заўважыць: вядучыя дзеячы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на нейкім этапе зразумелі, што мары аб зусім незалежнай, самастойнай, суверэннай Беларусі, якая апынулася паміж молатам і кавадлам, паміж Сцылай і Харыбдай, з'яўляюцца утопіяй. Такую незалежнасць магла забяспечыць толькі нацыянальная армія. А яе не было за што арганізаваць і ўтрымліваць. Нічога не дала спроба з утварэннем Беларускай вайсковай камісіі.

У выніку разгортвання падзей на працягу 1919—1920 гадоў у ідэйных пазіцыях многіх вядучых беларускіх дзеячаў — у тым ліку ў А. Гаруна, А. Луцкевіча, А. Смоліча, Б. Тарашкевіча і іншых — назіраецца змена палітычных арыенціраў. Пераканаўшыся на справе, што легіёны Пілсудскага вяртаюць на Беларусь неўтаймаванае памешчыцкае насілле, беларускія дзеячы ўсё больш пачынаюць арыентавацца на ідэалогію Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У свой час бальшавікі разлічвалі, што абвяшчэнне ССРБ дазволіць дабіцца ліквідацыі БНР. Той жа Кнорын пісаў: «Супрацьпастаўляючы самастойную Сацыялістычную Рэспубліку Беларусь буржуазнай народнай рэспубліцы на чале з Радаю, мы знішчалі ўсякую магчымасць выкарыстаць супраць нас лозунг самавызначэння народаў», БНР, аднак, існавала, не здавалася, не самаліквідавалася, усімі сіламі ратавала ідэю беларускай дзяржаўнасці. І гэта прымусіла бальшавікоў з цягам часу прызнаць рэальны факт існавання беларускай нацыі і вярнуцца да ідэі адраджэння БССР.

На нейкім этапе ў 20-я гады ў тых, хто застаўся жывы, былі дастатковыя падставы для меркаванняў, што іх надзеі не былі марнымі і што яны апраўдваліся. Так было амаль да канца 20-х гадоў, калі той самы Кнорын, магчыма, не па сваёй ініцыятыве, але ва ўсякім выпадку па найглыбейшым перакананні, засведчаным яшчэ ў перыяд грамадзянскай вайны, павёў наступленне супраць беларускай гісторыі і культуры. Ён верай і праўдай раздзьмухваў той агонь, у якім неўзабаве згарэў і сам.

У ЗАКЛЮЧЭННЕ хацелася б хоць для самога сябе паспрабаваць адказаць на пытанне, ці маем права мы гаварыць пра суверэнітэт і незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі? Маем, бо Рада БНР і Народны Сакратарыят не падпарадкоўваліся нікому, не жылі па чужых дэкрэтах, не маліліся чужым законам. Яны самі тварылі разумныя і справядлівыя законы, якіх, аднак, не мелі сілы ажыццявіць.

А ці можам мы сказаць тое ж самае пра ўрад ССРБ? Ва ўмовах «дыктатуры пралетарыяту» нават вельмі абмежаваная спроба самастойнасці закончылася для яго трагічна. І я адважуся выказаць упэўненасць, што сама ідэя захавання беларускасці закончылася б крахам, калі б не існавала непакорлівая, непадатлівая на ўсе маніпуляцыі чужынцаў Беларуская Народная Рэспубліка.

Такім чынам, мы абавязаны сёння прызнаць той факт, што без БНР не было б БССР. У сваю чаргу Беларуская Народная Рэспубліка не нарадзілася б, калі б не маштабная самаахвярная палітычная, грамадская, культурная дзейнасць Беларускай сацыялістычнай грамады ў пачатку нашага стагоддзя. А ў БСГ найбольш ганаровае месца гісторыя павінна адвесці братам Луцкевічам. Рана ці позна, але час настане, калі іх імёнамі будуць называцца ў нашых гарадах праспекты, заводы, навучальныя ўстановы, калі з плошчаў будуць пазіраць на нас іх помнікі, а іх партрэты зоймуць ганаровае месца ў падручніках усіх рангаў, у навуковых выданнях, ва ўстановах культуры.

**Заканчэнне. Пачатак у нумарах за 8 і 15 сакавіка.**

ПЕРАД ім стаялі ў чарзе двое. Першы, яшчэ малады мужчына, у чорным кажуху і белай трусавай шапцы, голасна абураўся:

— Таго няма, гэтага... Калі яно ўжо будзе? Больш сямідзесяці гадоў Савецкай уладзе!

Другі мужчына, сіваваты, з постаццю былога вайскоўца, рэзка перапыніў яго:

— Вы супраць Савецкай улады?!

— А табе што, мо ты служыў у НКВД?!

Пажылы глыбака, з усхліпам уздыхнуў і амаль крыкнуў:

— Прозвішча?! Ваша прозвішча?!.

Вяртаючыся дамоў, пачуў гэта Мікіта Ярахавец, калі прыпыніўся ля старога абшмулянага пакупнікамі газетнага кіёска, у якім сядзела былая настаўніца матэматыкі. Яшчэ летась яна вучыла ягонага старэйшага сына. Мікіта павітаўся з ёй, агляну́ўшы тавар за шклом, і ўзяў «Вячэрні Мінск» на беларускай мове. Ён купляў гэту газету толькі дзеля апошняй старонкі, на ёй друкаваліся аб'явы, рэклама, праграма радыё, тэлебачання, кіно і тэатраў. Што было на астатніх старонках, не чытаў, бо лічыў прымітывам. Апошнім часам ён падумваў зусім не чытаць газет, як некалі Уладзімір Караткевіч і Канстанцін Паўстоўскі.

Пакуль жонка гатавала вячэру, ён прагледзеў усе аб'явы і вочы яго зачапіліся за чорныя радкі некралогаў. Не тое, што чытаў, а проста вочы самі пабеглі па іх, выхапілі прозвішчы людзей, якія адышлі ў нябыт. І раптам унізе гэтага жалобнага спісу ён убачыў знаёмае прозвішча... Прафесару кафедры філасофіі Каптаровічу спачувалі ў сувязі са смерцю бацькі. Ну што ж, рана альбо позна ва ўсіх паміраюць бацькі. Мікіта адклаў газету ўбок, але праз якую хвіліну зноў узяў яе. Прачытаў: Каптаровіч Антон Пятровіч... Гэтага чалавека ён бачыў мо тыдні тры назад на Ленінскім праспекце. Аднак яны тады не толькі не размаўлялі, але нават не павіталіся.

Канечне, яны бачыліся неаднойчы пасля таго, як Мікіта скончыў інстытут. І ніколі не віталіся. Апошні раз яны пагаманілі, калі ён быў на другім ці трэцім курсе. У яго з таго часу заставалася да Каптаровіча не тое, што нянавісць... Не, тады яшчэ шмат чаго не разумеў...

Мікіта лічыў сябе сакрэтным супрацоўнікам прафкома, ледзь не разведчыкам у стане ворага. Калі іх упершыню сабралі, а акрамя Мікіты, было некалькі студэнтаў з тэхналагічнага факультэта, з радыётэхнічнага, потым падышла Армалевіч Алена, —Каптаровіч так і сказаў:

— Абвастрылася ідэалагічная барацьба. Вораг не спіць, ён лезе ў душу да студэнтаў. Вы яго вазьміце за *рэбры...*

Каптаровіч быў хударлявы, невысокі, у белай кашулі з кароткімі рукавамі. Вусны ў яго былі ўвесь час мокрыя. Чорныя вочкі трохі пукатыя, пільна аглядвалі кожнага, хто сядзеў тут. Ён рабіў у прафкоме і быў аспірантам кафедры філасофіі.

Мікіта заўважыў, што Каптаровіч найбольш звяртаецца да Армалевіч Алены, прыгожай русявай дзяўчыны, якая перад інстытутам адпрацавала на будоўлі два гады і была таксама членам партыі. Здавалася, калі б хлопцы зараз выйшлі з кабінета, пакінуўшы Алену, Каптаровіч, як кажуць, прыцісну́ў бы яе. «Як кот...» — падумаў Мікіта. Пра Каптаровіча хадзілі па інстытуце чуткі, што ў дзяўчат залікі па філасофіі ён прымае толькі за другім разам... Усе хлопцы тады выйшлі з кабінета, а Алена засталася, каб удакладніць нейкае пытанне...

У кожнага з іх цяпер быў свой участак, а дакладней, факультэт. Мікіту Каптаровіч вызначыў мехфак, які знаходзіўся ў велічэзнай дзевяціпавярховай будыніне. «Вы павінны знайсці кантакт з дэканатам і адчуваць, чым дыхаюць людзі, — тлумачыў ім Каптаровіч. — Байкі там розныя, анекдоты... пра кіраўнікоў партыі і ўрада, праблемы...»

Заняткі ў Мікіты пачыналіся а другой гадзіне. Таму ён зранку, больш-менш прыстойна апрануўшыся, пашыбаваў на мехфак. На ліфце пад'ехаў на сёмы паверх, дзе быў дэканат. Асцярожна адчыніў дзверы, усё-ткі яшчэ адчуваў ніякаватасць, няўпэўненасць: толькі ж першы курс. Ён яшчэ не лічыў сябе стопрацэнтным студэнтам. Здавалася, ён выпадкова тут, што гэта нейкі жарт: два месяцы назад быў ра-



# АНЕКДОТЫ

Віктар Супрунчук

*апавяданне*

бочым на заводзе і раптам — студэнт інстытута.

У прафесарскай і ў дэканаце нікога з выкладчыкаў не было, толькі адных, мусіць, гадоў з Мікітам дзяўчына ляпала на машынцы. Да перапынку заставалася яшчэ з паўгадзіны, і Мікіта вырашыў дачакацца званка. Аднак, урэшце, чаго ён тут будзе *ашывацца паўдня? Яшчэ* і да заняткаў не рыхтаваўся...

У калідоры вісела даўжэзная чатырохаркушавая пярэстая ад фарбаў насценная газета «Студэнт». Чытаў яе Мікіта, чытаў, але ніякай інфармацыі для Каптаровіча пакуль не знаходзіў. Нарэшце, яму пашчасціла: на апошнім аркушы некалькімі радкамі паведамлялася, што ў інтэрнаце № 1 быў зроблены рэйд па праверцы парадку і чысціні ў пакоях. У студэнтаў другога курса А. Вашкевіча і У. Васілевіча пад ложкам знайшлі бутэлькі з-пад віна і гарэлкі. Васілевіч абураўся, што ходзяць гэтыя праверкі і *толькі перашкаджаюць вучобе.* «Ага, можна ўзяць факцік сабе...» — падумаў Мікіта і перапісаў інфармацыю ў свой блакнот.

Унізе, на тым жа аркушы, староста першай групы трэцяга курса В. Боўш абураўся, што яго аднакурснік К. Мазляк і У. Гарбузавец кепска паводзілі сябе на занятках па дыялектычным матэрыялізме. Яны задавалі нетактоўныя пытанні выкладчыку. І гэта Мікіта запісаў сабе. Да званка яшчэ было хвілін пяць. Можна пачакаць, але ён успомніў, што абяцаў прыехаць да дзядзькі, дапамагчы яму будаваць гараж. Зрэшты, хопіць і гэтай інфармацыі, вырашыў ён, а з дэканам пазнаёмлюся іншым разам.

Увечары, калі хлопцы разышліся хто куды, Мікіта сеў за стол рыхтаваць сабраныя звесткі Каптаровічу. Пагартаў блакноцік, перачытаў усё. Драбнаватая была інфармацыя, калі б яшчэ дадаць сюды... На інструкцыі Каптаровіч казаў: галоўнае — антысавецкія размовы, анекдоты. А што калі... Яшчэ з год назад Мікіта чуў анекдот пра Брэжнева. Вось гэта будзе самае, самае антысавецкае. Ён напіша, што чуў, як незнаёмыя студэнты на мехфаку расказвалі анекдот і моцна рагаталі, ажно браліся за жываты.

Памяць на анекдоты ў Мікіты была някепская. Аднак ён гадзіну ўспамінаў іх, выбіраў, каб болей спадабаліся Каптаровічу, і, нарэшце, найцікавейшы, як здавалася, запісаў на паперу. Сэнс анекдота быў у тым, што Леанід Ільіч загадаў знайсці хірурга, які мог бы пашырыць яму грудзіну. Бо ўжо не хапала месца на пінжаку для медалёў.

Анекдот заняў паўаркуша, і Мікіта застаўся задаволены. Цяпер і астатняя інфармацыя будзе да месца.

Раніцай, калі ішоў па калідоры на кухню, ён спаткаў Армалевіч Алену, з пухлым пасля сну, ружовым тварам.

— Ужо хадзіў на свой факультэт? — спыталася яна, ласкава жмурачы вочы.

— Не, не хадзіў, — сказаў Мікіта, гледзячы ўбок.

— І я таксама, — уздыхнула Алена, — часу зусім няма...

Няйнакш схлусіла, падумаў ён. Пазаўчора, калі стаяў з сябрамі ля галоўнага інстытуцкага корпуса, бачыў, як Алена заходзіла ў будынак тэхналагічнага факультэта. Магчыма, ішла ў буфет, каб перакусіць. Магчыма... Але на іхнім факультэце ёсць свой буфет, дзе можна ўзяць сасіскі з капустай, кефір, чаю, булачку. Якраз досыць, каб падсілкавацца ў перапынку між заняткамі. Значыць, хлусіць. Гэтак жа, як і ён.

Сваю інфармацыю Каптаровічу Мікіта аднёс у той жа дзень. Перачакаў, пакуль з кабінета не выйшлі людзі.

— Што, прынёс? — відаць было, ажно ўзрадаваўся Каптаровіч. — Сядай, сядай. Паказвай.

Выхапіў паперу з рук у Мікіты, прагна пабег вачыма па радках. Твар яго святлеў, весялеў і праз хвіліну, здалося, ужо зіхацеў ад радасці.

— *Тое, што трэба, браце!* — *паляпаў* ён рукою Мікіту па плячы. — Малайчына, дзейнічай так і далей. Гэтак мы з табой... У наступны панядзелак прыходзь зноў. Ідзі, — амаль вышturхаў Мікіту з кабінета. Зачыняючы дзверы, той пачуў, што Каптаровіч таропка круціць дыск тэлефона. Было б цікава ведаць, што ён будзе перадаваць. Хоць вазьмі дый падслухай... Але ж непрыгожа, і раптам нехта ўбачыць. Што будзе тады? Ладна...

Ён ужо быў унізе, як пачуў з другога паверха:

— Ярахавец, Ярахавец, — перагнуўшыся цераз парэнчы, яго гукаў Каптаровіч. — Ідзі сюды! На хвілінку...

«Што такое? Мо што кепскае?..» — палахліва падумаў, але рабіць няма чаго — вярнуўся назад. Каптаровіч быў яшчэ больш узбуджаны, проста свяціўся. Як мала трэба чалавеку для шчасця.

— Слухай, Ярахавец, — азіраючыся па баках, сказаў Каптаровіч, — ты ж прозвішчы не напісаў, з якой групы?..

— Дык я не ведаю, — пацісну́ў ён плячыма, — незнаёмыя.

— А знешне якія яны, не помніш?

— Адзін, здаецца, чарнявы, а другі — бялявы з вусамі, — казаў Мікіта, прыдумваючы людзей, якіх ён ніколі не бачыў.

— У наступны раз будзь уважлівым. Ідзі...

Праз тыдзень ён зноў пайшоў на мехфак. У дэканаце быў намеснік дэкана, лысаваты мужчына з зямлістым, хваравітым тварам. У ім было нешта нервовае, непрыемнае. Мікіта адразу хацеў выйсці з кабінета, але яго спыніў *воклік:*

— Вам нехта патрэбен?

Мікіта вярнуўся, павітаўся з намеснікам дэкана і, абвясціўшы, што ён прадстаўнік парткома і прафкома, спытаўся, якія ў факультэта праблемы. Маўляў, партком з прафкомам вывучаюць гэтыя праблемы, каб пасля абагульніць і дапамагчы іх вырашыць.

— Вось такая ў мяне задача, — скончыў ён свой аповяд і ўзрадаваўся, што з твару гэтага хваравітага чалака зніклі недавер і іронія, з якімі той слухаў яго.

— Ну, няблага, няблага, — сказаў намеснік дэкана, — запісвайце, калі ласка... У нас працуе таленавіцейшы вучоны дацэнт Германовіч Васіль Казіміравіч. Ён зрабіў некалькі вынаходніцтваў, якія маюць міжнароднае значэнне. І што вы думаеце, у яго няма кватэры ў горадзе. Васіль Казіміравіч ездзіць штодня на электрычцы за семдзесят кіламетраў. Вось адна праблема, якую хай дапамогуць вырашыць партком з прафкомам. Вы запісалі, малады чалавек?

— Так, — хітнуў галавой Мікіта і з сумам падумаў, што гэтая інфармацыя можа не спадабацца Каптаровічу. Але няхай, ці гэта не праблема, што таленавіты вучоны замест таго, каб плённа працаваць на карысць дзяржавы, столькі часу траціць на пераезды.

Ён, канечне, усё запісаў, што набалбатаў яму намеснік дэкана. Як быццам хтосьці ім дасць лабараторыі, кватэры. Ага, толькі чакайце. Нібыта раней не было ў інстытуце прафкома і парткома. «Каб я сказаў, дзеля чаго пытаюся, дык адразу схацеў бы гаварыць», — узнікла шалёная думка.

Мікіта падзякаваў намесніку дэкана і пайшоў па даўжэзным калідоры да ліфта. З аб'яў і газет ён ужо ўсё перапісаў, нешта трэба прыдумаць зноў. А калі зрабіць так: у час перапынку чуў, як студэнты расказвалі анекдоты пра Васіля Іванавіча Чапаева і Пецьку. Няўжо гэты факт Каптаровіч не залічыць яму ў актыў? Неяк жа ўвосень у іхнім інтэрнаце *выступаў лектар і казаў, што нашыя* ідэалагічныя ворагі сабралі ажно двухтомнік анекдотаў пра героя грамадзянскай вайны Васіля Іванавіча Чапаева і выдалі ў Мюнхене. Цяпер гэту брыдоту спрабуюць пасеяць у душах савецкіх людзей. Распаўсюджваюць цішком з-за мяжы. Значыць, калі анекдоты пра Чапаева — антысавецкая брыда, дык трэба выкарыстаць яе...

Праз колькі дзён Мікіта зноў сеў за паперу для Каптаровіча. Пачаў, як і ў мінулы раз, з анекдотаў. Пра Чапаева ён ведаў іх некалькі. Чуў неаднойчы і да вучобы ў інстытуце, і ўжо тут, у групе. Спярша напісаў, як Чапаеў уяўляў камунізм: пра кансерваторыю і абсерваторыю. Потым дадаў пра чырвоную ікру. Падумаў, ці не напісаць яшчэ пра Брэжнева і Суслава, але ж, пэўна, будзе занадта. Лепш пакінуць гэты анекдот на наступны раз.

Анекдоты занялі ажно цэлы аркуш. На другім ён сцісла пераказаў тое, што пачуў ад намесніка дэкана. Перачытаўшы інфармацыю, Мікіта застаўся задаволены сабою. І ўдосталь парагатаў з Каптаровіча. Няйнакш зноў будзе старацца званіць, паведамляць пра каштоўныя звесткі. Няхай радуецца, дурань! Ён, мусіць, ужо лічыць, што ведае, хто чым дыхае на механічным факультэце. А мо там у яго і свой асабісты інтарэс? Зрэшты, усё магчыма. Аднак ён запатрабуе паказаць, хто анекдоты расказваў... Хай сам тады ідзе і пытаецца, узлаваўся Мікіта. Ён ясна напісаў: анекдоты пачуў у калідоры. Студэнтаў стаяла шмат, а ён нікога не ведае на факультэце. Дык што, слухаць, а потым — ваша прозвішча? А табе навошта? Каб паведаміць у партком. Ідзі адсюль, пакуль не атрымаў у карак...

Каля прафкома ён сустрэўся з Армалевіч Аленай. Тая была ў цеснаватых джынсах, падфарбаваная і нейкая вельмі ўзбуджаная. Вочы блішчэлі, як у хворай. Яна выскачыла з кабінета Каптаровіча з такой хуткасцю, быццам за ёю нехта гнаўся.

**УВАГА!**

## Новы «Дзень паэзіі» чакае...

**Нядаўна ў кнігарнях з'явіўся «Дзень паэзіі-90», здадзены ў друк «Дзень паэзіі-91», а рэдкалегія штогодніка прыступіла да падрыхтоўкі чарговай кніжкі. Часу застаецца не так і шмат, таму чакаем ад літаратараў у бліжэйшыя тры месяцы арыгінальных твораў. Матэрыялы просім дасылаць на адрас часопіса «Беларусь», складальніку «Дня паэзіі-92» Віктару Шніпу або ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».**

**Творы не рэцэнзуюцца і аўтарам па пошце не вяртаюцца.**

**РЭДКАЛЕГІЯ «ДНЯ ПАЭЗІІ-92».**

## ВЯРТАННЕ СПАДЧЫНЫ

**Сталася так, што вядомы беларускі пісьменнік Рыгор Мурашка ў пачатку вайны не змог выбрацца з акупіраванага немцамі Мінска. Праўда, праз некаторы час яму надарыўся выпадак звязацца з партызанамі. Р. Мурашка выконваў іх заданні і адначасова займаўся творчасцю. У тыле ворага ім былі напісаны раманы «Насуперак лёсу» і «Таварышы».**

**У 1943 годзе пісьменнік ідзе ў лагойскія лясы. Знаходзячыся ў спецгрупе маёра Б. Казанцава, займаецца агентурнай разведкай, удзельнічае ў баявых аперацыях. Разам з тым не спыняе літаратурнай дзейнасці. Адзін з твораў, «Смерць маткі», быў надрукаваны (за подпісам «РЭМ») у 1943 годзе ў лагойскай падпольнай газеце «За Савецкую Беларусь».**

**Рыгор Мурашка не дажыў да вызвалення Беларусі...**

**Думаецца, чытачам «ЛіМа» будзе цікава пазнаёміцца з навелай Р. Мурашкі «Смерць маткі».**

**Б. САСНОЎСКІ,**
**былы супрацоўнік лагойскай падпольнай газеты «За Савецкую Беларусь».**

**Рыгор МУРАШКА**

# СМЕРЦЬ МАТКІ

Душныя жнівеньскія дні млелі ў спякоце. Млелі людзі. Млеў пакалечаны, знясілены горад. Руіны, пажарышчы пахавалі пад сабою былую яго радасць і, быццам жалоба, над горадам навісла тумановая імгла. Пыл і попел напаіў паветра. Гарачыня душыла, сціскала ў горле. Балючыя слёзы не капалі на шчокі, а сухім вострым полымем гарэлі ў поглядзе, які безнадзейна імкнуўся некуды высока, некуды далёка.

Пасярод пажарышчаў нейкім дзівам засталася адна маленькая драўляная хатка. Пры хатцы — хляўчук, невялічкі гарод.

З хаты выходзіць і часта стаіць пры пахіленых варотцах маці. Яна засталася адна пасля таго, як два сыны яе пайшлі змагацца з ордамі фашысцкага Чынгісхана, якія нечакана ўварваліся і запаланілі яе краіну. Фашысцкія полчышчы пракаціліся з захаду на ўсход, як саранча, і, як пасля саранчы, ад багатых ды прыгожых яшчэ гэтак нядаўна гарадоў засталіся адны руіны, застаўся адзін жах. І гэты жах і безнадзейнасць цяпер увачу ў маці.

Яе хатка пры галоўнай вуліцы горада. Гэтаю вуліцаю час ад часу праходзяць калоны палонных. З аўтаматычнымі пістолетамі на плячы вакол кожнае калоны палонных канваіры. Канваіры з брытымі патыліцамі, з парасшпільванаю грудзінаю і пазакасанымі па локаць рукавамі ў зялёных нямецкіх мундзірах. Яны расчырванеліся і падобны да разнікоў. Яны і ёсць нішто іншае, як разнікі. Толькі замест сякеры ў правай руцэ ў кожнага вялізная тоўстая палка, і пры кожным выпадку, калі ім здаецца, што які-небудзь палонны парушае нечым правілы паходнага руху, цяжкая палка бязлітасна б'е па галаве, па плячах, па руках няшчаснага, б'е датуль, пакуль той не ўпадзе непрытомны на сухую дарогу. Тады разнік з пазакасанымі рукавамі падыходзіць да яго, спакойна штурхае яго мыском бота, спакойна здымае з пляча аўтаматычны пісталет. Гучыць нервова кароткая частая строчка аўтамата. У кроў афарбоўваецца сухая пясчаная дарога. Разнік з брытай патыліцаю мыском цяжкага падкутага бота яшчэ раз штурхае ўжо нежывое цела, грэбліва сплёўвае, закідае на плячо аўтаматычны пісталет, і калона варушыцца далей.

Запыленыя палонныя ў зялёных гімнасцёрках, часта з голаю галавою, ледзь перасоўваюць ногі. Яны нямытыя і галодныя. Па два, па тры дні ў роце ў іх не было ні расінкі. Яны часта бачаць гароды. На гародах морква і бручка, якою можна было б прагнаць жахлівы голад, прагнаць хоць на кароткі момант. Але за гэты момант можна заплаціць смерцю, не адчуўшы аблягчэння галоднага жаху. Паабапал дарогі, якою варушацца, можна бачыць трупы тых, што заплацілі сваім жыццём за кароткую часіну слабасці.

Маці стаіць пры пахіленых варотцах і ў сухім вострым поглядзе яе гарыць сухое полымя. Можа, і яе два сыны дзе-небудзь брыдуць гэтаю жахліваю дарогаю смерці.

Да яе працягваюцца з немаю просьбаю рукі.

— Адну крошку хлеба, маці...—шэпчуць хрыпла вусны.

Але маці стаіць нерухома, адно ўваччу гарыць тухое, вострае полымя. За адну спробу даць па скібцы хлеба гэтым няшчасным яна аднойчы атрымала прыкладам у грудзі, а распублікованы загад ваеннага камандавання гэтых разнікоў з пазакасанымі рукавамі папярэджваў мірнае жыхарства аб кары смерцю кожнага, хто будзе дапамагаць чым-небудзь палонным або даваць ім прытулак.

Вечар ужо, але спякота не меншае, але ўсё гэтаксама млее знясілены горад, млеюць людзі, млее рэдкая дзе-нідзе расліннасць.

З сухімі, сасмаглымі, пачарнелымі вуснамі, з немым поглядам варушыцца зноў калона палонных, яшчэ здалёку рэдкія сухія стрэлы гавораць аб іхнім набліжэнні. Маці выходзіць на двор. Але на дварэ свішчуць кулі. Расчырванелыя, п'яныя з аднаго віду крыві, разнікі з пазакасанымі рукавамі страляюць направа і налева, страляюць усіх, хто спрабуе падысці да калоны. Людзі хаваюцца па хатах. Хаваецца і маці, зачыняючы на засоўку дзверы.

Яны ўкрадкі глядзяць у вакно. Якраз перад яе хатаю ў калоне адбываецца мітусня, чутны стрэлы. Разнікі збіваюць палонных каламі, страляюць з аўтаматаў. Сабраўшы астатнюю сілу, палонныя ратуюцца ад смерці. Яны разбягаюцца направа і налева. Два з іх праз агарод забеглі ў матчын двор і схаваліся ў хлеўчуку. Бліжэйшыя сябры двух уцекачоў пастараліся павялічыць непарадак у калоне, каб даць ім магчымасць знікнуць за той час, пакуль у калоне ўсталюецца парадак.

«Кара смерцю за прытулак палонным...» агнём прамільгацелі ў матчынай свядомасці. Яе застрэляць, як сабаку, і яна ніколі больш не ўбачыць сваіх сыноў. «Ніколі... Ніколі...» — страшна гучыць у яе вушах.

Маці падхапляецца і бегма бяжыць на двор. Яе не палохаюць ні стрэлы, ні смерць ад выпадковай кулі. Яна бяжыць на вуліцу і крыкам і знакамі паказвае канваіру на хлеўчук.

— Там!.. Там схаваліся... палонныя!.. — моцна шэпчуць яе збялелыя вусны.

— Сакрамэнта!— асіплым голасам крычыць разнік з пазакасанымі рукавамі і бяжыць да хлеўчука.

Момант — і чуецца траскценне стрэлаў у хлеўчуку. Яшчэ момант — і расчырванелы разнік хісткаю, п'янаю хадою забойцы вяртаецца да калоны.

Цяпер маці можа быць спакойная. Яна яшчэ можа ўбачыць сыноў сваіх. Яна прадала двух няшчасных, якія ратаваліся ад жаху смерці, але за гэту цану яна будзе мець магчымасць убачыць сваіх сыноў.

Дзверы хлеўчука незачынены. Маці ідзе туды. З хлеўчука чуцен хрыплы. перадсмяротны енк.

— Божа мой... — шэпча маці, закрываючы рукамі вочы.

Яна ўглядаецца ў твар аднаму і другому.

— Мама... — шэпча адзін з іх, мацуючыся прыўзняць галаву і глянуць на маці. Другі ўжо змоўк назаўсёды.

— Сынкі!.. Сынкі мае дарагія!.. — нема вырываецца з матчынага сэрца, і яна без сілы падае далоў.

Доўга ляжыць яна гэтак. А пасля ўстае. У галаве ў яе цемра, і цемра ўжо на дварэ.

Яна выходзіць на вуліцу. Але і халадок ночы не астуджвае спякоту. Як у полымі, гарыць яе цела. Яна ідзе сухою пясчаною дарогай.

— Ма-ма...

— Мама! Мама! — нема ўжо чуецца з усіх канцоў, з усіх руінаў.

— Ай! — прарэзлівым голасам крычыць маці і бяжыць вуліцаю.

— Мама! Мама! — каменнымі малаткамі стукае крык у сэрца.—Мама. Мама.

Агонь шыбае ў твар ёй. Гарыць яе галава, усё яе цела. І маці бегма ляціць праз гэты агонь, як вялізная начная птушка.

А з усіх канцоў нема гучыць:

— Мама!.. Мама!..

Яна закрывае рукамі вушы, каб не чуць гэтых галасоў. Але ў сэрцы каменнымі малатамі стукае:

— Мама... Мама...

Яна сціскае далонямі галаву і бяжыць па голай пустэльнай вуліцы.

— Гальт! — чуцен раптам ахрыпла-мядзяны голас. Але маці не чуе, яна бяжыць. Куды і чаго бяжыць яна?

Ляскаціць металічным ляскатам зброя. За другім крыкам «Гальт» гучыць стрэл.

Маці падае, як падае колас, які падрэзвае вострая каса на полі. І ўжо няма больш спякоты. Адляцела некуды полымя агню, што паліла ёй твар і ўсё цела. Не стукаюць у сэрцы каменныя малаткі:

— Мама... Мама...

Маўклівыя чорныя ляжаць руіны.

## БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# «Лятаючы рыцар Грамады»

Летась у вераснёўскім нумары часопіса «Маладосць» была надрукавана гутарка Барыса Сачанкі з Масеем Сяднёвым (запіс С. Сачанкі). Ёсць у ёй і такая мясціна:

«**Б. С.** — А што Вы можаце сказаць пра Сяргея Хмару-Сіняка? Ён у Заходняй Беларусі некалі выдаў зборнік паэзіі, пісаў прозу. Жыве ў Канадзе, выдае там нейкі часопісік...

**М. С.** — Я яго мала ведаю, хоць не раз і сустракаўся з ім. З канадыйцаў ведаю лепш хіба Кастуся Акулу. Некалі напісаў пра ягоную «Дзярлівую птушку» добрую рэцэнзію, але ён не любіць чамусьці мяне...

**Б. С.** — Сяргей Ясень— гэта не Сяргей Хмара-Сіняк?

**М. С.** — Пад гэтым псеўданімам пісаў верш Янка Запруднік...»

Вось, бадай, і ўсё, што я змог прачытаць у беларускім друку пра Сяргея Хмару — яшчэ аднаго нашага эмігранта, лёс якога не абышлі арышт НКУС і вайна. Дык хто ж ён, Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сіняк)?..

Радзіма паэта — вёска Казлоўшчына Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). У час працэсу Грамады польскі пракурор-абвінаваўца назваў С. Хмару «лятаючым рыцарам Грамады». І гэта сапраўды так. У семнаццацігадовым узросце С. Хмара быў ужо ў складзе пятай групы войск БНР, якая змагалася супраць палякаў, пасля стаў актыўным сябрам



ТБШ у Заходняй Беларусі. Тады і раскрыліся яго асноўныя арганізатарскія і творчыя здольнасці. Напрыклад, толькі ў 1926 годзе С.Хмара арганізаваў 32 гурткі Грамады, якія налічвалі каля трох тысяч сяброў.

У 1930 .годзе Хмару выбралі сакратаром пасольскага клуба «Змаганне» ў Пінску, ён спрабаваў закласці беларускую гімназію і выдаваць часопіс. З 1931 года працаваў інструктарам Галоўнай Управы ТБШ у Вільні, але ў 1932 годзе яго арыштоўвае польская дэфензіва і разам з Б. Тарашкевічам саджае ў турму. Б. Тарашкевіч атрымаў восем гадоў, а С. Хмара — крыху менш.

Пасля турмы вярнуўся на Слонімшчыну, дзе разам са сваімі равеснікамі і старэйшым паэтам Гальяшом Леўчыкам меркаваў выдаваць літаратурны часопіс «Маладая Ўскалось». Але палякі не дазволілі. І тады С. Хмара, А. Лябецкая, С. Бякета, А. Крыга, П. Крэнь і іншыя хлопцы і дзяўчаты арганізавалі ў Дзятлаве літаратурную сустань «Маладая Ўскалось».

За гэты час С. Хмара шмат друкаваўся ў віленскіх газетах і часопісах. А ў 1939 годзе ў Вільні выйшла яго першая паэтычная кніжка «Жураўліным шляхам».

Пасля прыходу Савецкай Арміі ў Заходнюю Беларусь С. Хмара жыў у Слоніме, але радасці было мала. Неўзабаве яго арыштавалі і пасадзілі ў баранавіцкую турму. Вызваліўся з прыходам немцаў, вярнуўся ў акупіраваны Слонім. Прыдбаўшы невялікую кніжную краму, прадаваў беларускія кнігі, прымаў удзел у выданні газеты «Слонімскі кур'ер»...

У 1945 годзе С. Хмара ўжо ў Берліне, працуе дырэктарам Беларускага інфармацыйнага бюро, пасля рэдактарам «Голасу беларусаў».

З 1945 года жыў у Канадзе ў Таронта. Доўгі час выдаваў там газету і часопіс «Баявая Ўскалось». Цяпер — толькі газету «Беларускі голас». Вядзе вялікую работу па прапагандзе беларускай мовы і культуры, выступае ў друку з вершамі і ўспамінамі.

Да ўсяго сказанага вышэй пра С. Хмару (Сіняка) трэба дадаць, што ён шмат гадоў употайкі перапісваўся з Піліпам Пестракам, які дасылаў яму свае кнігі. А ў рамане «Сустрэнемся на барыкадах» П. Пестрак нават змясціў невялікі кавалачак яго песні «Годзі, мы доўга цярпелі...»

Шчыра сябраваў С. Хмара і з Уладзімірам Дубоўкам, які прысвяціў яму сваю казку «Як сінячок да сонца лётаў» (1961 г.). У добрых адносінах ён быў з Ларысай Геніюш, Велянцінам Таўлаем і некаторымі іншымі беларускімі літаратарамі.

У мінулым годзе Сяргей Хмара адзначыў сваё 85-годдзе.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
г. Слонім.


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара —33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ —33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ —33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ —33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА—33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ —33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ —33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.**







**Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**